# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (754) БЕЛАСТОК 9 ЖНІЎНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.



*Возера Нарач (у сярэдзіне нумара чытайце «Дзе адпачываюць беларусы»).*

## НАРАЧАНСКІЯ ТОНІ

Вецер
душнаю спёкаю вее,
Ціха-ціха варушыць
блакітнасць вод
Там,
дзе спяць, бы ў калысцы,
на сонцы лілеі,
Быццам гусі,
далёка заплыўшы ў чарот.
Нарачанскія тоні
чысцей, чым крыніца.
У ваду пазіраю,
нібы ў акно:
Прад вачыма
маленькі каменьчык свіціцца,
І нырае акунь
на пясчанае дно.
Нарачанскія тоні,
рыбацкія тоні!..
Кожны ранак
спяшаецца човен сюды.
Нарачанскія тоні
адчыняць прадонне,
Запрашаючы ў царства сваё невады.

**Мар'ян Дукса**

Маланка

## УВАГА, БАЦЬКІ!

**Ужо за няцэлы месяц вашы дзеці пойдуць у школу. Яны будуць патрабаваць шмат навучальных дапаможнікаў. Многія з іх знайсці можна будзе ў «Ніве». Таму неадкладна (даслоўна!) трэба выпісаць «Ніву» на верасень! На іншыя месяцы таксама! Будзем друкаваць патрэбны школьнікам матэрыял на працягу ўсяго навучальнага года.**

*Нататкі з ГДР*

## СУЗАНЭ

Маё першае знаёмства з немцамі адбылося яшчэ ў поездзе, які імчаў у Дрэздэн. Нечакана адчыніліся дзверы нашага купэ, і ўвайшла маленькая, 3-гадовая Сузанэ. Яна рашуча ўлажыла сваю мініятурную ручку ў маю і прагаварыла тоненькім галаском: «Guten Tag»!

На працягу некалькіх гадзін гэтае маленькае стварэнне ўміляла мне падарожжа, захапляючыся польскімі краявідамі, дзе «лясы, поўныя... дрэў» і дзе «поезд ідзе ўвесь час... ля мора» (рэкі якраз разліліся).

Сузанэ вярталася разам з бацькамі і старэйшым братам з Гродна, дзе на працягу 2-х гадоў яе бацька працаваў у якасці тэхніка-спецыяліста, абслугоўваючага нямецкія машыны.

Седзячы на маіх каленях, яна весела шчабятала аб тым, якіх яна пакінула на Беларусі сяброў і сяброўак.

— А ці па-беларуску гаварыць ты навучылася? — спыталася я.

— Nicht viel (нямнога), — сарамліва апусціла вочкі Сузанэ і хуценька дадала па-беларуску. «Добры дзень!».

Вобраз маленькай Сузанэ, якая так даверліва прытулялася да мяне ў купэ скорага поезда, спадарожнічаў мне на працягу нашага прабывання ў ГДР.

Краіна якраз рыхтавалася да 8 мая — свята вызвалення ад нямецкага фашызму. Было гэта відаць па мітусні ў магазінах, па святочна ўпрыгожаных вуліцах, па вялікай колькасці замежных гасцей, якія штораз шчыльней запаўнялі тутэйшыя гатэлі.

25 гадоў мінула з таго часу, калі капітулявала фашысцкая нечысць, калі на нямецкай зямлі заціхлі выбухі бомб і стрэлы гармат, ды калі тысячы і тысячы ашуканых, пакалечаных і змучаных вайной людзей вярнуліся ў сваю

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ 25 ліпеня кінаперасоўкай ГП былі высветлены ў Літвінавічах і Клюковічах у Сямяціцкім павеце два савецкія фільмы «Па дарозе ў Берлін» і «Вясковы дэтэктыў».

■ 16, 17 і 18 ліпеня, а таксама 23, 24 і 25 ліпеня кіраўнік нашага музея ў Белавежы Ул. Гацута збіраў экспанаты ў Гайнаўскім і Беластоцкім паветах. Музей папоўніўся больш як 200 каштоўнымі экспанатамі.

■ У ліпені на практыцы ў нашым музеі былі два студэнты з Варшаўскага універсітэта.

■ У ліпені наш музей у Белавежы наведала больш 4500 чалавек.

■ 7 ліпеня бельскі аддзел БГКТ у Саках арганізаваў вечарыну, прысвечаную 25-ай гадавіне Перамогі.

■ Гурткі БГКТ у Бельскім павеце добра аплочваюць членскія складчыны, а таксама павялічваюць колькасць членаў. Сакратар бельскага аддзела Іван Шурбак у Дубяжыне ўручыў 26-ці асобам членскія білеты, і зараз у гуртку налічваецца 62 чалавекі. Усе члены БГКТ за 1970 год аплацілі членскія складчыны. А ў вёсках Мокрае і Піліпкі аднавіліся гурткі, і таксама ўсе іх члены аплацілі за гэты год членскія складчыны.

■ Цэлы жнівень эстрада ГП «Лявоніха» будзе выступаць з канцэртамі ў Келецкім ваяводстве.

■ 19 ліпеня драмгурток БГКТ з Сухініч выступіў у Бабіках (Сакольскі павет) з п'есай «Люцынка-інжынерыха» Сакрата Яновіча.

■ 28 ліпеня пад кіраўніцтвам нядаўна выбранага старшыні Івана Ляўко адбылося першае пасяджэнне прэзідыума дуброўскага аддзела БГКТ. На ім быў выпрацаваны план працы прэзідыума і аддзела да канца гэтага года. У пасяджэнні прэзідыума ўзялі ўдзел старшыня ГП М. Хмялеўскі, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП — Ул. Паўлоўскі і сакратар сакольскага аддзела БГКТ А. Севесцьянюк.

■ 19 ліпеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў для свайго актыву паездку аўтобусам на рэчку Нарву. Удзельнікі паездкі бавіліся таксама ў клубе ў Плёсках. Усе прыемна і весела правялі свабодны дзень ад працы. (мс)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі



## СВЕТ

### БЛІЗКІ УСХОД

У сувязі з амерыканскімі прапановамі па ўрэгуляванню блізкаўсходняга крызісу адбываюцца многія кансультацыі кіраўнікоў арабскіх краін. Як вядома, не ўсе арабскія краіны прынялі гэтыя прапановы, а ізраільскі ўрад прыняў іх пад націскам прэзідэнта Ніксана.

Калі аддаем матэрыял да друку, у Трыпалісе пачалася сустрэча міністраў замежных спраў і міністраў абароны арабскіх краін, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у ліквідацыі вынікаў ізраільскай агрэсіі.

Палітычныя назіральнікі лічаць, што мэтай нарады ў Трыпалісе будзе адхіленне разыходжанняў у поглядах адносна амерыканскіх прапаноў і ўтрыманне адзінства арабскіх краін.

### МЕМАРАНДУМ АЎСТРЫІ

Урад Аўстрыі накіраваў мемарандум усім зацікаўленым урадам наконт склікання агульнаеўрапейскай нарады па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. У мемарандуме падкрэсліваецца, што Аўстрыя з самага пачатку вітала прапанову аб скліканні такой нарады.

Як дзяржава, якая праводзіць палітыку пастаяннага нейтралітэту, — гаворыцца ў дакуменце, — Аўстрыйская Рэспубліка праяўляе цікавасць да ўсіх намаганняў, накіраваных на сапраўдную разрадку напружанасці.У адпаведнасці з гэтым Аўстрыя адказала станоўча на прапанову ўраду Фінляндыі правесці такую нараду ў Хельсінках.

Аўстрыйскі ўрад заяўляе аб сваёй гатоўнасці ўдзельнічаць у падрыхтоўцы нарады і прапануе Вену ў якасці месца «папярэдніх сустрэч экспертаў на высокім узроўні».

### ВЕНГЕРСКІЯ КУРОРТЫ

На пашырэнне і добраўпарадкаванне балатонскіх курортаў у наступныя пяць гадоў будзе выдадзена каля 6 мільярдаў фарынтаў. Трэцюю частку гэтых сродкаў плануецца выдаткаваць ужо ў гэтым годзе. На Балатоне будуць пабудаваны новыя санаторыі і дамы адпачынку.

### ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў ЯПОНІІ

Больш 611 тысяч злачынстваў зроблена ў Японіі за першую палавіну гэтага года. Гэта на 17 тысяч перавышае колькасць злачынстваў за адпаведны час мінулага года.

### ДАВЕР ДЛЯ ГАНДЗІ

Народная палата Індыйскага парламента 241 голасам супраць 134 адхіліла рэзалюцыю аб выражэнні недаверу ўраду Індзіры Гандзі. Рэзалюцыя была ўнесена дэпутатамі апазіцыі ад аб'яднанай сацыялістычнай партыі і была падтрымана прадстаўнікамі ад правых партый «Джон сангх», «Арганізацыя кангрэс» і іншымі.

### ЦЭЙЛОН

...спыніў дыпламатычныя адносіны з Ізраілем, — афіцыйна паведаміў прадстаўнік міністэрства замежных спраў Цэйлона. (ак)



## БССР

### ПРЫВІТАЛЬНЫМ

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савет Міністраў БССР звярнуліся з прывітальным пісьмом да рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых, партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый трэста №17 «Лаўсанбуда» Міністэрства прамысловага будаўніцтва Беларускай ССР, да мантажных і спецыялізаваных арганізацый міністэрстваў мантажных і спецыяльных будаўнічых работ Саюза ССР і Беларускай ССР і Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна.

Расце, набірае моцы гігант беларускай хіміі — Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна.

### УКАЗАЛЬНІК

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет бібліяграфічны ўказальнік *«У. І. Ленін аб Беларусі»*, падрыхтаваны да друку Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК Камуністычнай партыі Беларусі і бібліятэкай імя А. М. Горкага.

Усяго цяпер вядома сто пяцьдзесят выказванняў, тэлеграм, запісак, пісьмаў Леніна, у якіх адлюстраваны важнейшыя моманты гісторыі беларускага народа.

### ДРУЖБЫ

Мінск наведала дэлегацыя Таварыства мангола-савецкай дружбы. Знаходзілася яна ў сувязі з 49-ай гадавінай народнай рэвалюцыі ў Манголіі.

Дэлегацыю ўзначальваў намеснік міністра лёгкай і харчовай прамысловасці Мангольскай Рэспублікі Б. Жам'ян.

Мангольскія сябры азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, пабывалі ў абутковым аб'яднанні «Прамень», агледзелі цэхі. На прадпрыемстве адбыўся мітынг савецка-мангольскай дружбы.

### КУРАНТЫ

У парку культуры і адпачынку імя А. В. Луначарскага над Сожам у Гомелі адноўлены ў апошнія гады старажытны вежавы корпус. Яго вышыня — 32 метры. Тут краязнаўчы музей.

На апошнім паверсе корпуса ўстаноўлены галоўны гадзіннік горада. Цыферблаты размерам 210 сантыметраў у дыяметры і метровыя стрэлкі курантаў умацаваны ва ўсіх чатырох сценах высокага будынка. Пры дапамозе сучаснай аўтаматычнай апаратуры куранты кожную гадзіну выконваюць па восем цымбальных тактаў з беларускай народнай песні *«Люблю наш край»*, а затым меладычнымі перазвонамі адлічваюць час сутак.

### ЛЕТНІХ

Да летніх гастроляў па Беларусі калектыў Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача падрыхтаваў лірычную камедыю з жыцця сучаснай рабочай моладзі «Мядовы месяц» па п'есе Кастуся Губарэвіча.

### ГУШЧЫ

У ліпеньскім нумары беларускага літаратурнага штомесячніка «Полымя» надрукаваны вершы Яна Гушчы, выдомага польскага паэта і сардэчнага сябра беларускай культуры, выдатнага папулярызатара яе ў Польшчы. Перакладалі вершы В. Зуёнак, Ан. Клышка і Р. Барадулін.

### ПРУЖАНСКАГА

Камсамольцы Пружанскага патрыятычнага аб'яднання правялі паход па месцах гераічных баёў, умоўна названы аперацыяй «Прыпяць». (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ

У Польшчы пабываў з афіцыяльным візітам міністр замежных спраў Бельгіі Перэ Гармель. Правёў ён размовы з прадстаўнікамі польскага ўраду на тэмы, якімі зацікаўлены абедзве краіны.

### ПРАЦА ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Адбылося пасяджэнне камісіі Фронту адзінства народа па справах працы грамадскім чынам, на якім новым старшынёй камісіі выбраны намеснік прэм'ера — Здзіслаў Тамаля. На пасяджэнні намеснік прэзэса Галоўнага статыстычнага бюро Леан Жэндоўскі прадставіў вынікі выканання працы грамадскім чынам у I пяцігоддзі гэтага года. Агульная вартасць гэтай працы ацэнена на суму 2,1 мільярда злотых і перавышае суму, дасягнутую ў мінулым годзе за гэты ж перыяд. Грамадскім чынам за I паўгоддзе пабудавана 486 кіламетраў дарог, 16 мастоў, больш 43 кіламетраў водаправода для вёскі, 112 школьных залаў, 24 святліцы і дамы культуры, 24 супрацьпажарныя рамізы, 36 спартыўных аб'ектаў. Апрача гэтага, зроблена шэраг рамонтна-парадкавых работ.

### НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ

На прадпрыемствах усяе краіны ідзе падрыхтоўка да ўвядзення ад пачатку наступнага года новай сістэмы эканамічных стымулаў. Камісіі прадпрыемстваў, абапіраючыся на падрабязныя аналізы сучаснай сітуацыі на прадпрыемствах, прыступаюць да выбару заданняў. Адначасова на гэтай базе апрацоўваюцца праграмы дзеяння прадпрыемстваў на бліжэйшую пяцігодку.

### СТУДЭНТЫ

Больш 10.000 студэнтаў выехала ў гэтым годзе ў час канікул за мяжу. Найбольш студэнцкай моладзі (амаль 4 тысячы) выехала ў Савецкі Саюз. Яшчэ 4 тысячы студэнтаў выехала ў розныя краіны народнай дэмакратыі.

### ТРУСКАЛКІ

Збор трускалак быў у гэтым годзе амаль у два разы вышэйшы, чым у мінулым годзе. Дзяржаўны гандаль закупіў ад гаспадароў каля 53 тысяч тон трускалак. Колькасць гэтая аказалася аднак недастатковай. Каб забяспечыць патрэбы рынку, збор трускалак павінен узрасці яшчэ ў два разы.

### ЭКСПАРТ

Цяжкая прамысловасць выканала свае гадавыя экспартныя заданні за I паўгоддзе на 48,7 працэнта. План экспарту ў капіталістычныя краіны выкананы больш чым на 50 працэнтаў. Вартасць экспарту ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года павысілася на 18 працэнтаў, а экспарту ў капіталістычныя краіны — на 22 працэнты.

### БЕЗ МАКСІ

Наша прамысловасць не будзе прапагаваць моды максі (жаночыя ўборы даўжынёй да пят). Адзежа, перададзеная гандлю ў чацвертым квартале гэтага года, будзе мець даўжыню міні (кароткія) і мідзі (да паловы лыткі).

### ФАБРЫКА ДАМОЎ

У мясцовасці Жоры пачала працу другая ўжо на Шлёнску фабрыка дамоў. Будзе яна прадукаваць 2 тысячы трыасабовых кватэр у год. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ГРАМАДСКІЯ КАМІТЭТЫ

У ваяводскім камітэце партыі ў Беластоку адбылося пасяджэнне камісіі па справах рад нарадовых. На пасяджэнні была зроблена ацэнка партыйнага кіраўніцтва грамадскімі радамі на падставе 20 грамад нашага ваяводства.

На тэрыторыі прыведзеных грамад ўсюды працуюць грамадскія камітэты. Справы рад нарадовых у іх працы займаюць вельмі важнае, калі не найважнейшае месца. Галоўным напрамкам дзейнасці грамадскіх камітэтаў у галіне партыйнага кіраўніцтва грамадскімі радамі была дапамога камітэтаў у вызначэнні адпаведных кірункаў развіцця рад і ў забеспячэнні правільнага падыходу да выканання партыйных пастаноў. Сістэматычна грамадскія камітэты ацэньвалі выкананне грамадскіх гаспадарчых планаў і выбарчых праграм. Шмат увагі грамадскія камітэты прысвячаюць справе супрацоўніцтва ГРН з іншымі мясцовымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі, працы сельскагаспадарчай службы, дзейнасці радных — членаў партыі і г.д. Было сцверджана на пасяджэнні камісіі, што грамадскія камітэты партыі дабіліся ўжо значных поспехаў у палітычным кіраванні жыццём грамад праз свае ўплывы на працу рад нарадовых. Аднак яшчэ не ўсюды грамадскія камітэты выпрацавалі адпаведныя формы і сістэму працы з раднымі-членамі партыі.

### РАМОНТЫ ШКОЛ

Першае верасня недалёка. Асветныя ўлады прыкладаюць ўсе намаганні, каб ва ўсіх школах, дзе цяпер ідзе рамонт, дзеці маглі тэрмінова пачаць заняткі. Пакуль што ўсё гаворыць аб тым, што рамонты ў школах будуць закончаны да 1-га верасня, але толькі ў сярэдзіне будынкаў. Аднак будаўніча-рамонтныя брыгады часта вымушаны прастойваць з-за недахопу патрэбных матэрыялаў.

### НОВЫЯ ШКОЛЫ

Сёлета беластоцкія дзеці атрымалі 6 новых школ: новы будынак II агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку і 5 падставовых школ — у Бельску, Харошчы, Глінках, Смалянах і Есянове.

### ДЫПЛОМЫ

Прэзідыум гарадской рады нарадовай у Беластоку прызнаў дыпломы за выдатную грамадскую працу многім актыўным грамадскім дзеячам — членам гарадскога калектыву па справах грамадскіх камісій пагаднення, актывістам грамадскіх камісій пагаднення, васьмі дзеячам раённых камітэтаў горада, тром дзеячам дамовых камітэтаў і двум дзеячам вулічных камітэтаў, а таксама дзеячам Фронту адзінства народа.

### НОВАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

У Беластоку будзе новае прадпрыемства малочнай прамысловасці — фабрыка даспявання сыроў. Тут будуць даспяваць сыры з малочных прадпрыемстваў Бельска, Простак, Гайнаўкі, Замброва і Сямяціч. Фабрыка будзе аддана ў карыстанне ў 1972 годзе. (яч)




NIEDZIELA, 9.VIII.

9.00 Program dnia; 9.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Lato 70''; 9.40 ,,Przypominamy, radzimy''; 10.00 Dla dzieci: ,,Letni karnawał'' — program TV Litewskiej; 10.30 Przerwa; 12.15 Program dnia; 13.00 Dziennik TV; 13.15 ,,Przemiany''; 13.45 Teatrzyk dla Przedszkolaków: ,,Pies z ulicy Szerokiej''; 14.20 ,,W starym kinie''; 15.20 ,,Piąta rano'' — film; 16.15 Film; 17.15 ,,W sobotę i niedzielę''; 17.40 PKF; 17.50 Sprawozdanie z Mistrzostw Polski w lekkoatletyce; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 ,,Nokturn'' — transmisja koncertu nocnego Chopinowskiego w Dusznikach-Zdroju; 21.00 Festiwal Piosenki i Melodii Dalmacji — Split 70; 22.30 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK, 10.VIII.

16.35 Program dnia; 16.40 Dziennik TV; 16.50 ,,Teleferie''; 17.20 ,,Echo stadionu''; 17.35 ,,Sztafeta reporterów''; 18.15 ,,Kino Filmów Animowanych''; 18.50 ,,Partnerzy'' — program ekonom.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 ,,Sylwetki X Muzy'' — Kaskaderzy; 20.30 Teatr TV: J. Kaden-Bandrowski — ,,Zapiski majora Pycia''; 22.25 Dziennik TV.

WTOREK, 11.VIII.

10.00 ,,Koronny świadek'' — film fab. radz.; 11.05 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych — cz. I; 17.50 ,,Magazyn Przebojów'' — program TV NRD; 18.45 ,,Trzy razy dlaczego''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych — cz. II; 21.00 ,,Koronny świadek'' — film fab. radz.; 22.05 ,,Jawa i urojenie''; 22.30 Dziennik TV.

ŚRODA, 12.VIII.

10.00 ,,Małżeństwo z rozsądku'' — film fab. czechosł. cz. III; 11.30 Przerwa; 16.45 Program dni; 16.50 Dziennik TV; 17.00 ,,Teleferie''; 18.10 Magazyn ITP; 18.25 TV Kurier Warszawski; 18.50 ,,Żniwa''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 ,,Małżeństwo z rozsądku'' — film fab. czechosł. cz. III; 21.40 ,,Swiatowid''; 22.10 PKF; 22.20 ,,Odwiedziny o zmierzchu'' — nowela filmowa; 22.45 Dziennik TV.

CZWARTEK, 13.VIII.

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 ,,Nie tylko dla pań''; 17.25 TV Kurier Lubelski; 17.40 Film rozrywkowy; 18.25 ,,Poligon''; 18.55 ,,Gdzieś w Meksyku'' — film; 19.05 ,,Lektury współczesne''; 19.15 ,,Przypominamy, radzimy''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 ,,Hanka Ordonówna'' (,,Spotkanie z cieniem''); 20.55 ,,Zeznanie'' — film fab. USA; 21.50 ,,Refleksje''; 22.20 Dziennik TV.

PIĄTEK, 14.VIII.

10.00 ,,Zeznanie'' — film fab. USA; 10.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik TV; 17.00 ,,Teleferie''; 18.30 TV Kurier Mazowiecki; 18.45 Wszechnica TV: ,,Co to jest efektywność''; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 ,,Toczący się kamień'' — nowela film. franc.; 20.30 ,,Kraj'' — mag. społeczno-polityczny; 21.10 VII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: ,,Pojedynek''; 22.20 Dziennik TV.

SOBOTA, 15.VIII.

10.00 ,,Sami na wyspie'' — film fab. jugosłowiański; 11.25 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 Program tygodnia; 15.50 ,,Oferty''; 16.00 ,,Bonanza'' — film; 16.50 Dziennik TV; 17.00 ,,Spotkania z przyrodą''; 17.25 ,,Tele-Echo''; 18.25 ,,Wiedeńska operetka'' — film rozrywkowy bułg.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 ,,Niezwykłe spotkanie'' film fab. ang.; 21.40 Dziennik TV; 22.00 Kabaret Starszych Panów; 23.10 ,,Paryż na pięciolinii'' — film rozrywkowy.




Piątek, 7 sierpnia

8.00 Nowiny; 8.15 Atlas narodów ZSRR, 8.40 ,,Do nowego brzegu'' — film; 10.30 Zawody pływackie młodzieży; 11.00 Nowiny; 15.00 Program; 15.05 Nowiny; 15.15 Przemówienie na temat ,,Obecna taktyka antykomunizmu''; 15.30 Panorama nowin; 16.05 Dla młodzieży szkolnej. Śpiewa ,,Bodra smiana'' Bułgaria; 16.30 Reportaż; 17.00 Młodzi artyści Omskiego teatru; 17.30 ,,Czas''. Program informacyjny; 18.00 Opowieść o Czekiście — film; 19.25 Reportaż ze żniw; 19.45 — Telewizyjny teatr miniatur; 20.45 Koncert; 21.45 Nowiny.

Sobota, 8 sierpnia

8.00 Program; 8.05 Gimnastyka; 8.30 Nowiny; 8.45 Dla maluchów; 9.00 Koncert; 9.40 Podlotek razem z tobą; 10.25 Muzyczna szkatułka; 10.35 Przegląd międzynarodowy; 10.50 Program dla dzieci. Spektakl; 12.00 Indochiny, nowa agresja. Film dokumentalny; 13.00 Film ,,Kryżaczok''; 13.30 Kronika półwiecza. Film dokumentalny; 14.30 Święto sportu; 15.00 Mistrzowskie zawody piłki nożnej; 15.30 Japonia; 18.00 Stawka większa niż życie: ,,Spotkanie''; 18.55 Pracowity okres wsi; 19.05 Następcy. Telewizyjny spektakl; 20.35 Festiwal tańca ludowego; 22.05 Nowiny.

Niedziela, 9 sierpnia

7.00 Program; 7.05 Gimnastyka; 7.20 Nowiny; 7.30 Dla dzieci. Straż pożarna; 8.00 Dzień budowlanych; 8.30 ,,Wysokość'' — film; 10.00 Dla dzieci ,,Bawcie się z nami''; 10.30 Festiwal młodych; 11.00 Dla wojskowych radzieckiej armii i marynarki; 12.00 Muzyczny kiosk; 12.30 Jak pływają ryby; 13.30 Konne zawody sportowe; 14.30 Spotkanie z muzeum rosyjskim; 15.00 Klub podróżników filmowych; 16.00 Nowiny; 16.05 Pracownikom wsi; 16.35 Stawka większa niż życie; 17.30 Festiwal ludowego tańca; 19.30 ,,Czas''. Program informacyjny; 20.05 Program z Polski; 21.00 Nowiny.

# ПА СЛЯДАХ МАТЭРЫЯЛАЎ «НІВЫ»

## ДАРОГА АЗЯРОК — КЛІН

У «Ніве» ад 28 чэрвеня ў артыкуле «Слоя — памажы сабе» пісалі мы пра сабепанства сакольскага Раёна публічных дарог, які раскапаў дарогу Азярок — Клін. Сталася так, відаць, таму, што Раёну было гэта выгадна пры будаванні крынкаўскай шашы.

Сакольскія ўлады прачыталі наш артыкул і прыслалі вытлумачэнне, з якога вынікае, што дарога, раскапаная паміж вёскамі Азярок і Клін, ужо выраўнана на цэлай сваёй даўжыні ды шырыні, і можна ўжо нармальна праехаць ёю. Верым словам Саколкі, аштампляваным у дадатак рознымі пячаткамі. Пры аказіі просім аднак слаянскіх людзей напісаць нам, ці сапраўды так добра сталася з гэтым аднаўленнем дарогі...

## САКОЛЬСКІ ПЗГС НЕ ВЕДАЕ...

Многа горшым чытачом нашых артыкулаў аказаўся сакольскі ПЗГС, які павінен быў высніць як след, што гэта за ашуканствы вычаўпаюць яго кладаўшчыкі! Пісалі мы аб тым у рэпартажы пад назваю «Сухінічы хочуць падыскутаваць з Ігнатовічам», які апублікаваны 5 ліпеня г.г. ПЗГС добра ведае, у чым справа, бо справа гэта нарабіла яму многа шуму, а мы ўспомнілі аб ёй толькі мімаходзь, указваючы, што вінавата і мясцовая ўлада, якая не давяла паслядоўна да канца высвнення афёры з пшаніцай, засмечанай іншым збожжам... ПЗГС у сваім пісьме да нас прыкінуўся, што не ведае, чаго гэта мы нападаем на яго работнікаў. Прозвішчаў ашуканых людзей няма, во! У артыкуле нашым, ага! Прозвішчы ёсць, іх многа, у грамадскага агранома, якому, відаць, не хапіла адвагі задзірацца з сакольскім ПЗГС-ам... Дзіўная гэта радасць ПЗГС-а, які цешыцца, што ў нашым артыкуле не напісана дакладна, чым была засмечана пшаніца: ячменем ці аўсом?

## ПКО ПАПРАВІЛАСЯ

Свайго часу «Ніва» звярнула ўвагу беластоцкаму ПКО, што замала адкрытых кас, і таму людзі, якія прыйшлі ўплаціць свае ашчаднасці на кніжачкі ПКО, вымушаны чакаць у чарзе гадзіну, а то і болей... ПКО бараніўся тым фактам, што на тэрыторыі Беластока, ды і прыгарадаў, існуе 159 ПКО-оўскіх пунктаў, з якіх людзі не карыстаюць, бо хочуць утрымаць у таямніцы сумы сваіх ашчаднасцей. Вядома, найляпей плаціць у цэнтралі беластоцкага ПКО, дзе няма знаёмых, якія разнеслі б, хто і колькі ўжо накапічыў грашыскаў...

Пасля такога апраўдання дырэктар беластоцкага ПКО Генрык Навакоўскі аўтарытэтна паведаміў нашаму журналісту спецыяльным пісьмом: ...«паведамляем адначасова, што ў бліжэйшыя дні будзе адкрыта дадатковая каса».

Вельмі добра. Кожны мае права бараніцца, але адначасова мае абавязак лічыцца з праўдаю! (ся)

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!

# СЛУГІ ПАКРЫЎДЖАНЫХ ЛЁСАМ

Польшча з'яўляецца адзінай дзяржавай на свеце, дзе працуюць групы грамадскіх маладзёжных інструктараў ПЦК. Хто і што яны, гэтыя грамадскія інструктары? Моладзь ад 16 год. Дзейнічаюць — у сваіх сярэдніх школах, маючы пад апекаю пачатковыя школы. Групы інструктараў дзейнічаюць пры Ваяводскім і павятовых праўленнях ПЦК. Што робяць? З'яўляюцца ініцыятыўнай групай: арганізоўваюць наведванне дамоў пенсіянераў, адзінокіх хворых у бальніцах, дамоў дзіцяці, а таксама адзінокіх у месцах іх жыхарства. Яны з'яўляюцца ініцыятарамі, а выконваюць гэта школьныя праўленні ПЦК. Адным словам, гэта маладыя людзі, якія пасвяцілі свой вольны час на тое, каб стаць слугамі патрабуючых іхняй услужлівасці.

Частка маладзёжных інструктараў працуе летам у вучэбна-адпачынковым лагеры, які кожны год арганізуе Ваяводскае праўленне ПЦК у Беластоку. У гэтым годзе лагер быў у Сакалдзе,

(Працяг на стар. 4)



*Салістка клуба Ядвіга Завадская — лаўрэат ваяводскага агляду за 1969 год і лаўрэат спецыяльнай узнагароды за мову, бо Ядвіга дасканала выконвае свае песні на рускай мове.*

# ЯКІ ЧАР ГЭТАЙ ПЕСНІ

Клуб савецкай песні Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку здабыў I месца ў II агульнапольскім аглядзе клубаў савецкай песні, які адбыўся ў Беластоку. Гэта найстарэйшы клуб савецкай песні ў краіне.

Першае-найпершае арганізаванае зацікаўленне савецкай песняй нарадзілася якраз у Беластоку ў 1961 годзе. Тады адбыўся тут першы конкурс савецкай песні. З яго лаўрэатаў утварыўся гурток савецкай песні. Першымі яго членамі былі Люба Томчык і Аляксандр Каліноўскі. У 1962 годзе выступілі яны ў агульнапольскім аглядзе і здабылі для савецкай песні небывалую славу. Помніцца, спявалі, між іншым, «Вальс дружбы». Так яно і пайшло потым: ад першых любіцеляў савецкай песні да шырокага цяпер зацікаўлення ёю ва ўсёй краіне. Беластоцкі гурток пераўтварыўся ў клуб савецкай песні і Беластоцкае ваяводства ў песні гэтай ніколі не адстала. Беластоцкія лаўрэаты штогод здабываюць на фестывалях савецкай песні ў Зялёнай Гуры заслужаныя лаўры.

Беластоцкаму клубу савецкай песні ўвосень бягучага года споўніцца 10 год. Ад пачатку з ім непарыўна працуе як музычны кіраўнік Ян Куляшэвіч, вядомы дырэктар Беластоцкага сімфанічнага дзяржаўнага аркестра.

У клубе ў сярэднім бывае 10 чалавек, але адны адыходзяць, другія прыходзяць. Многія ў клубе навучыліся любіць савецкую песню. Члены клуба выводзяцца з розных асяроддзяў: гэта вучні, студэнты, людзі з фабрык і ўстаноў.

Кіраўніцтва і асабліва сакратар Ваяводскага праўлення ТППР Зофія Трыбульская вызначае клубу ролю вялікага папулярызатара савецкай песні і таксама беларускай песні, як песні бліжэйшага прыгранічнага нашага суседа.

Клуб савецкай песні з'яўляецца клубам любіцельскім, выступае ён з бясплатнымі канцэртамі ў вёсках, гарадах і на фабрыках ваяводства.

У 1967 годзе беластоцкі клуб савецкай песні атрымаў узнагароду Міністра культуры за высокі ідэйна-выхаваўчы змест сваёй працы.

*Вера Леўчук*
*Фота Цаф—Сянько*




*Кадр з навейшай песеннай праграмы беластоцкага клуба савецкай песні «Які чар гэтай песні». З гэтай праграмай клуб выступіў на II агульнапольскім аглядзе клубаў савецкай песні 1970 года ў Беластоку. Рэжысёр праграмы — акцёр беластоцкага тэатра Мечыслаў Банасік.*



*Члены беластоцкага клуба савецкай песні, злева: Ядзя Завадская, Мікалай Міраковіч, Аля Федарчук, Аня Курoўская, Міхал Артышэвіч.*

# НОВАЕ Ў МАТУРАЛЬНЫХ ЭКЗАМЕНАХ

Шматлікія дыскусіі выклікала справа экзаменаў на атэстат сталасці ў зрэфармаваным агульнаадукацыйным ліцэі. Першы экзамен адбудзецца за неспаўна год. Аб зменах у дагэтуляшняй сістэме экзаменаў на атэстат сталасці (матуры) паінфармаваў Міністр асветы і вышэйшай адукацыі прафесар др Генрык Яблонскі.

Адной з важнейшых спраў будзе факт, што атэстат сталасці (пасведчанне) перастане быць адзіным доказам заканчэння сярэдняй школы. Дагэтуль справа мелася так, што таму, хто быў дапушчаны да матуры, але яе не здаў, залічвалася толькі закончаная пачатковая школа. Згодна з новымі ўказаннямі, сярэднюю адукацыю атрымлівае кожны, хто на канец года ў IV класе атрымае ўсе ацэнкі прынамсі пасрэдныя.

Вучань IV класа ліцэя, які атрымае на канец года ўсе прынамсі пасрэдныя ацэнкі, але не прыступіць да экзаменаў на атэстат сталасці або не здасць іх, атрымлівае пасведчанне заканчэння ліцэя. Гэтае пасведчанне будзе падставай да атрымання адпаведнай зарабатнай платы. Выпускнікі ліцэя без атэстатаў сталасці будуць мець права паступаць на розныя курсы, а таксама ў школы, якія зараз называюцца «паматуральнымі».

Гэта абсалютна не значыць, што гэтым выпускнікам зусім закрыта дарога да атэстату сталасці. Кожны, хто атрымае пасведчанне заканчэння адукацыі ў ліцэі, але не мае атэстату сталасці, будзе мець права прыступіць да матуральных экзаменаў на працягу бліжэйшых чатырох год ад заканчэння школы. Экзамены на атэстат сталасці можна будзе паўтараць аж тры разы і толькі па тых прадметах, якія дагэтуль не былі залічаны. Як вядома, дагэтуль можна было паўтараць матуральныя экзамены толькі два разы на працягу навучальнага года і то на правах вучня.

Як будуць выглядаць самі экзамены? Каб быць дапушчаным да матуры, вучань павінен мець прынамсі пасрэдныя ацэнкі з усіх прадметаў у апошнім класе. Аб дапушчэнні да вусных экзаменаў будуць вырашаць прынамсі пасрэдныя ацэнкі з пісьмовых прац. Не будуць прымяняцца ніякія звальненні з экзаменаў. Экзамен на атэстат сталасці будзе фактычна абымаць тры прадметы: родная мова, матэматыка і трэці прадмет да выбару з пяці (фізіка, хімія, біялогія, геаграфія, веды аб Польшчы і сучасным свеце). Трэці прадмет можа быць выбраны згодна з факультатыўнымі заняткамі, на якія хадзіў вучань, але гэта не можа быць правілам.

Міністр Яблонскі выясніў, што мэтай факультатыўных заняткаў з'яўляецца не падрыхтоўка да экзаменаў, а паглыбленне здольнасці самастойнага мыслення. Апрача таго семінарыйная форма факультатыўных заняткаў павінна зменшыць парог, раздзяляючы сярэднюю школу ад вышэйшай.

З вышэй сказанага вынікае, што на экзаменах новых матур не будзе прадмету «замежная мова». Міністр паясніў гэта тым, што пры паступленні ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы здаецца экзамен па замежнай мове і таму ўводзіць гэты прадмет у матуральныя экзамены няма патрэбы. Аднак Міністэрства пастанавіла, што вучань можа здаваць дадаткова экзамен па мове, якой не вучыўся ў школе, у рамках абавязваючага плана навучання.

А што ў тэхнікумах? Міністр Яблонскі заявіў, што ўсе прынцыпы экзаменаў павінны быць аднолькавыя для ўсіх тыпаў сярэдніх школ. Ёсць толькі адна розніца: у тэхнікумах замест прадмета да выбару вучні будуць складаць экзамен, як і дагэтуль, па прафесіянальнай падрыхтоўцы.

А. К.

БЕЛАРУСІЯНА

## LITERACI

Нядаўна з'явілася ў кнігарнях новая кніга Ежы Путрамента з мемуарнага цыкла «Pół wieku» і абымае 1950—1955 гады. Як і ў ранейшых сваіх кнігах, і ў гэтай Е. Путрамент часта ўспамінае Беларусь — краіну свайго дзяцінства і маладосці. Гэта тэма спалучана цесна з сучаснасцю: прыносяць яе людзі, сярод якіх аўтар жыве, або прырода, якая яго акружае.

Асноўная ж тэма кнігі — польскае літаратурнае асяроддзе тых гадоў і справы, звязаныя з ім. (рл)

# СТАТУТ САБАЧАЙ БУДКІ

Ці ведаеце вы, як павінна выглядаць сабачая будка? Паслухайце:

«Вышыня будкі павінна быць не меншая ад сабакі, так, каб мог ён у ёй свабодна стаяць. Сцены і падлога — зроблены двухпластава, паміж пластамі дошак — ацяпляючы пласт (толь, апілкі, мох, тарфяны пыл і г. д.). Дах аднаспадзісты, са шчыльна прылягаючых да сябе дошак, крыты падвойным пластом толі, смараванай штогод смалою. Капеж не меншы 50-ці сантыметраў для аховы ўлаза ад ападкаў. Перад улазам — парог з шырокай дошкі, забяспечваючы будку і сабаку ад пяску».

І гэтак далей... Гэтае і шмат іншых мудрасцей аб сабачай будцы вычытаў я ў кніжцы: „Instrukcja dla inspektora Towarzystwa opieki nad zwierzętami w PRL", нядаўна выдадзенай друкам і прысланай ласкава да нас Таварыствам аховы жывёл. Апісанне сабачай будкі, фрагменты якога прывёў я вышэй, не з'яўляецца дабрадушнай парадай для ўласнікаў сабак, а свайго роду «сабачым правам». Калі будка вашага сабакі будзе значна горшай ад вышэй апісанай, або, яшчэ горш, калі сабака ваш зусім будкі не мае, можа да вас прысці інспектар Таварыства апекі над жывёламі, паказаць свой дакумент, спісаць пратакол і падаць вас на пакаранне за здзекі над жывёлай.

З кніжкі даведаўся я аднак не толькі аб «статуце сабачай будкі». Даведаўся, напрыклад, што ўвядзенне дроту свінні ў рыла пагражае карай ў 200 злотых, што падвяргаецца пакаранню празмернае абцяжванне коней, біццё іх пугай, лейцамі, язда рыссю пад горку, прывоз на рынак курэй са звязанымі крыламі і г.д. Распараджэнне прэзідэнта Рэчпаспалітай з 1928 года, якое з'яўляецца ў нас актуальным правам і зараз, забараняе катэгарычна спускаць кроў са звяроў, якія раней не даведзены да непрытомнасці.

У кніжцы знаходзім мноства больш ці менш слушных загадаў і распараджэнняў. Асноўная мэта ўсіх сабраных тут ўказанняў, распараджэнняў і пастаноў — не дапусціць да здзекаў над жывёлай. Такім чынам, у адносінах да жывёлы прыменены прынцыпы маралі. Таварыства апекі над жывёламі імкнецца да пастаяннага пашырэння гэтых прынцыпаў у нашых адносінах да жывёльнага свету.

З кніжкі даведваемся таксама, што таварыства вядзе актыўную барацьбу ў абароне сваіх прапаноў, і што барацьба гэтая часта канчаецца перамогай. Таварыства змусіла адклікаць або змяніць некаторыя распараджэнні, як, напрыклад, распараджэнне ў справе ліквідацыі на тэрыторыі Варшавы безапечных катоў і сабак.

Аднак намаганні дзеля пашырэння прынцыпаў маралі і гуманнасці на жывёльны свет ідуць часта ў разрэз з традыцыяй. Кожны селянін ведае, якім страшэнным рыкам бароніцца свіння, калі ёй прабіваюць шылам рыла і ўводзяць туды дрот, каб адзвычаіць яе ад рыцця, але нямногім прыходзіць у галаву, што ў абароне свінні стаяць дзяржаўныя законы, якія забараняюць такога роду здзекі. Таксама нямногім прыходзіць у галаву, што, рэжучы цяля, ці авечку без папярэдняга аглушэння, дзейнічаем насуперак існуючым законам, якія патрабуюць, каб смерць кожнай жывёлы была па меры магчымасці безбалеснай.

Заканадаўцы лічаць, што забойства жывёлы традыцыйным вясковым спосабам з'яўляецца негуманным і варварскім. Толькі часткова маюць у тым сваю рацыю. Забойства свінні ў вясковай традыцыі было не проста механічным, грубым забойствам жывёлы, але нейкім рытуалам, абрадам. У гэтым своеасаблівым абрадзе было шэраг элементаў, якія лагодзілі неабходнасць забойства жывёлы. Аб забітай жывёле гаварылі пераважна добрыя рэчы, успаміналі і хвалілі, забойства звязана было найчасцей з нейкім урачыстым, святочным настроем і г. д.

Права аб жывёлах, як і ўся дзейнасць Таварыства аховы жывёл, супрацьстаўляючыся старой вясковай традыцыі ў яе адносінах да звяроў, не супрацьставілася чамусьці сапраўды не гуманнаму і не маральнаму забойству жывёлы — паляванню. Па сутнасці паляванне — гэта чыстае варварства XX стагоддзя. На паляванні забіваюць жывёлу люта, з раскошай глядзяць на яе неаднойчы цяжкае кананне, забіваюць пры тым без ніякай неабходнасці — для самой гульні забівання. Ці гэтыя дзіўны ў нашыя часы звычай не стаіць у супярэчнасці з усімі існуючымі ў краіне законамі аб звярах і забойстве звяроў? Шкада, што Таварыства аховы жывёлы не разгледзела з гэтага пункту гледжання нашага заканадаўства. Ліквідаваць паляванні і так, мабыць, не ўдасца — замнога паляўнічых сярод саміх заканадаўцаў, але, калі хочам змагацца за гуманнасць і мараль у нашых адносінах да жывёлы, трэба гэта рабіць паслядоўна.

*У. Паўлючук*

Пачатак на стар. 1

# СУЗАНЭ

хату. Або не вярнуліся зусім. Бо ахвяры ж вайны нязлічаныя. Па абодвух баках...

Дрэздэн, Берлін, іншыя гарады... На месцы многіх старых, цудоўных гістарычных помнікаў расце зялёная траўка, не ўсё ж удаецца рэстаўраваць... Тое, што засталося для гісторыі, не раз яшчэ прыпомніць нашчадкам сваімі вышчарбленымі, абсмаленымі ад агню вайны сценамі — суровую праўду жыцця.

Сустрэць на нямецкіх вуліцах інваліда, чалавека без рукі ці нагі — зусім звычайная з'ява...

Самае страшнае аднак гэта тое, што вайна пакінула глыбокі след у псіхіцы людзей.

Простыя людзі з Дрэздэна расказваюць:

— Нам гітлераўцы не гаварылі, што яны вырабляюць у захопленых краінах. Некаторыя чуткі да нас аднак даходзілі. Што ж мы маглі аднак зрабіць? Кожнаму хацелася жыць...

Сумленныя немцы маюць яшчэ і цяпер глыбокае пачуццё віны ў адносінах да ўсіх тых народаў, якія імкнуўся заняволіць, ці знішчыць Гітлер. Я б сказала, комплекс віны.

— У Польшчу пасля вайны мы ехаць не адважваліся. Толькі ў 1967 г. вырашылі паехаць і паглядзець гэтую краіну. Добразычлівыя людзі перад ад'ездам раілі: «Вы хаця там не гаварыце ўголас па-нямецку...»

Балюча перажываюць яны і тое, што Германія застаецца падзеленай краінай, а тым горш, бо не бачаць у сучасны момант магчымасці аб'яднання са стаўшай ужо зусім чужой ім краінай — ФРГ.

Нямецкі народ у ГДР хоча будаваць і будуе сацыялізм. Будуе сваё жыццё на новы, нязнаны дагэтуль лад. Будуе новыя цудоўныя гмахі, помнікі і праспекты. З надзеяй глядзіць у будучыню.

У часе свайго падарожжа мы сустракаліся з рознымі людзьмі, рознымі па сваёй прафесіі, рознымі па свайму мінуламу.

У Берліне нам давялося сустракацца з многімі антыфашыстамі, якія ў час II сусветнай вайны змагаліся на баку савецкіх партызан. Адзін толькі Гуга Барс, (цяпер палітычны супрацоўнік таварыства нямецка-савецкай дружбы) дзякуючы свайму палымянаму слову і лістоўкам, якія пісаліся ў лесе на нямецкай мове і раскідаліся ў нямецкіх часцях, перацягнуў на бок антыфашыстаў 20 000 немцаў - салдат, ашуканых Гітлерам. Ураджэнец Гамбурга, ён вымушаны быў пераехаць у дэмакратычны Берлін, калі была забаронена Камуністычная партыя ў ФРГ.

Для гэтых людзей — змагароў, як і для многіх іншых, асабліва дарагі мір, мір, заваяваны ўласнай крывёй.

У Берліне, над Трэптоўскім паркам, месцам традыцыйнай барацьбы нямецкага рабочага класа, дзе выступалі Карл Лібкнехт, Клара Цэткін і Эрнест Тэльман, узвышаецца помнік савецкага салдата — пераможца. Салдат з дзіцём на руках і апушчаным мячом, які рассякае фашысцкую свастыку, — гэта чалавек, які толькі для таго ўзяў меч у рукі, каб абараніць Радзіму. У адно зліліся ў гэтым вобразе смутак і аптымізм, драматызм і хвалюючая гуманнасць. Дзіця на руках салдата перажыло спустошальную вайну — воін, які вызваліў свет ад карычневай халеры, нясе яго насустрач міру, насустрач новаму жыццю.

Няхай жа маленькая Сузанэ, няхай і нашы, і нямецкія дзеці, няхай усе дзеці на зямным шары ніколі не зазнаюць жахаў вайны, няхай не даведаюцца ніколі, што гэта такое.

АДА ЧЭЧУГА

(Працяг са стар. 3)

# СЛУГІ ПАКРЫЎДЖАНЫХ ЛЁСАМ

згуртоўваючы 62 вучаніц і вучняў сярэдніх школ Беласточчыны.

Мэта арганізацыі лагера — падрыхтоўка камендантаў для школьных санітарных дружын, навука аказання першай перадлекарскай дапамогі, транспарт параненых і хворых, азнаямленне са структурай і гісторыяй чырвонакрыжскай арганізацыі і... адпачынак моладзі.

У ліпеньскі гарачы дзень мы наведалі лагер у Сакалдзе і пазнаёміліся з яго дзейнасцю. Вось вытрымкі з рэпарцёрскіх запісак.

Моладзь чырвонакрыжскага лагера вядзе апякунчую працу. Недалёка ад лагера жыве адзінокая Мар'я Лазэўская, якой 97 год. Удзельнікі лагера генеральна прыбралі бабулін панадворак і хату, дапамагаюць у штодзённай працы, а таксама прыносяць ёй ежу. Бабуля вельмі задаволена маладымі апекунамі. З адным толькі не вельмі згаджаецца, скаржыцца, што замнога ёй прыносяць ежы.

Моладзь з лагера аж два разы аказвала перадлекарскую дапамогу пацярпеўшым у дарожных выпадках, якія здарыліся ў Сакалдзе.

Не чужой ім застаецца і грамадска-выхаваўчая праца. Удзельнікі лагера апякуюцца помнікам паўстанцаў 1863 года, што ля Сакалды. Тут кожны дзень свежыя кветкі і чысціня. Моладзь зрабіла таксама экскурсію ў Лазню, і там былі пакладзены кветкі на магілах памардаваных. Мясцовае насельніцтва з прыемнасцю і ўдзячнасцю збіраецца на арганізаваныя лагерам вечарыны, асабліва на сесію ГРН, прысвечаную ліпеньскай гадавіне.

Запланавана таксама дапамагчы адзінокім і старэйшым людзям ў час жніва, пры знішчэнні каларадскага жука на бульбе, а таксама прыняць удзел у працы пры пабудове новай дарогі Супрасль — Крынкі. Варта напомніць, што ў мінулым годзе ўклад працы ўдзельнікаў лагера (пры пабудове дарогі) ацэнены на 4 тыс. зл.

Найбольш актыўнымі ўдзельнікамі грамадскіх прац і іх ініцыятарамі з'яўляюцца Я. Нявінская, Г. Кшэўская, Э. Палькоўская, Я. Чэрах, М. Тачыдлоўская, В. Семянюк, М. Макарэвіч і іншыя.

А. К.



*ЖНІВО* *Фота: Міхась Зубрыцкі*

*Да моладзі, што на вёсцы!*

# ЗА КОЖНЫ КОЛАС

Пачаўся гарачы жніўны час. Кліматычныя ўмовы не толькі апазнілі жніўную кампанію, але і спрыялі нагрувашчванню палявых работ. Хочацца, зразумела, сабраць кожны колас, кожнае зерне, бо кожнае дарагое, у кожнае было ўкладзена шмат працы і поту.

У такой сітуацыі многія гаспадаркі могуць аказацца ў вельмі цяжкай сітуацыі. Прадбачваючы гэта, Саюз вясковай моладзі звяртаецца да ўсіх дзяўчат і хлопцаў — членаў ЗМВ і ўсёй вясковай моладзі і абвяшчае акцыю:

*«Кожны колас на вагу золата».*

А вось заданні гэтай акцыі:

— арганізуйце групы дапамогі пры ўборцы збожжа ваенным інвалідам, быўшым партызанам, сем'ям ахвяр вайны і акупацыі, адзінокім жанчынам і ўдовам, старэйшым і хворым людзям, маладым гаспадарам, якія пачалі самастойнае гаспадараванне, сем'ям калегаў, якія знаходзяцца тэрмінова ў арміі, ПГР-ам і РСП;

— арганізуйце дзіцячыя клубы, сезонныя дзяцінцы, зялёныя святліцы і т.п. Такім чынам дзеці, бацькі якіх заняты палявымі работамі, атрымаюць апеку. Гэтым папярэдзіце многія пажары і ўтапленні;

— дапамагайце дастаўляць да рамонтных пунктаў сапсаваныя часткі жніўных машын сельскагаспадарчага гуртка. Вашыя матацыклы і вашы шафёрскія ўмеласці аддайце на службу жніўнай акцыі.

Адначасова звяртаем вашую ўвагу на небяспеку страты ўсяе маёмасці і нават жыцця. Толькі ў мінулым, 1969 годзе, на Беласточчыне выбухла 1114 пажараў, якія паменшылі нашую маёмасць на 61 мільён злотых. Толькі за летні перыяд згарэла 530 будынкаў. Гэтыя лікі вымушаюць пашырыць акцыю:

*«Ніводзен колас не можа згарэць!»*

Звяртаемся да ўсіх маладых гаспадароў і да кожнага члена ЗМВ:

— памятайце аб правільным стаўлянні стагоў, сціртаў і абарогаў у сваёй гаспадарцы і ў гаспадарках суседзяў;

— захавайце найбольшую асцярожнасць пры карыстанні агнём у час транспарту і малацьбы збожжа;

— давядзіце да парадку электрычнае абсталяванне, дымнікі і агравальныя прылады.

Гурткі ЗМВ павінны навязаць цесны кантакт з камандамі добраахвотных пажарнікаў (ОСП) і распаўсюдзіць сярод усіх гаспадароў прапагандовыя матэрыялы. Неабходна навязаць сувязь з дружынамі нялагернага лета ЗГП, якія праводзяць падобную акцыю, і проста спалучыць гэта ў адну акцыю так, каб была найбольшая карысць. Вашай дзейнасці чакаюць клубы «Рух» і «Гаспадара», дзе можаце арганізаваць апеку над дзяцьмі.

Вестак аб вашай працы чакае рэдакцыя нашага тыднёвіка. Пішыце! (ак)



# „ІВА" ЧАКАЕ

«Белавежа з распасцертымі рукамі чакае турыстаў, — сказаў нашаму прадстаўніку дырэктар турыстычнага прадпрыемства «Іва» ў Белавежы. — Турыстам прапануем начлегі ў нашай сучаснай гасцініцы, якая змяшчаецца ў цэнтры Белавежскага парку, рэстаран I катэгорыі і «Турыстычны», арганізуем экскурсіі ў пушчу і да зуброў. Адным словам, калі турыст прыходзіць у гасцініцу, ён поўнасцю абслужаны.

Шкада толькі, што турысты пра нас забываюць. Напрыклад, у чэрвені было выкарыстана толькі 60% нашых магчымасцей. Калі ў мінулым годзе гэтай парой мы абслугоўвалі 1000 кліентаў у дзень, дык у гэтым годзе толькі 200. Заахвочваем і запрашаем у Белавежу». (ак)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ДЗЕ АДПАЧЫВАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

На параўнальна невялікай тэрыторыі БССР размешчана каля трох тысяч рэкаў і чатырох тысяч азёраў. На іх берагах — вельмі многа цудоўных мясцін, самай прыродай быццам бы створаных для адпачынку. Нічога дзіўнага, што з кожным годам у розных кутках рэспублікі вырастаюць новыя санаторыі, дамы адпачынку, турыстычныя базы, прафілакторыі, піянерскія лагеры. Іх ахвотна наведваюць госці з іншых савецкіх рэспублік — дык беларуская зямля славіцца не толькі здаровым кліматам, масівамі сасновых бароў, але і мінеральнымі водамі.

Цяпер у Беларусі ёсць звыш 50 дамоў адпачынку і санаторыяў. Вялікай папулярнасцю ў рэспубліцы карыстаюцца такія санаторыі, як «Крыніца», «Нясвіж», «Нарач» і іншыя.

Найбольшае ў Беларусі возера Нарач і яго ваколіцы прыцягваюць велізарную колькасць адпачываючых. Іх цягнуць крыштальна чыстыя воды Нарачы і суседніх азёраў Мядзель і Баторын, пясчаныя пляжы, парослыя вяковымі соснамі берагі. Перад гэтым азёрным краем адкрываюцца вялікія перспектывы як вялікай курортнай зоны ўсесаюзнага значэння. Ужо цяпер у раёне Нарачы ўзвышаюцца шматпавярховыя карпусы санаторыя, будынкі двух дамоў адпачынку, ёсць турыстычная база, здольная абслужыць адначасова да 500 асоб. Санаторый «Нарач» кожны год прымае каля 4 тысяч асоб з сардэчна-сасудзістымі і жалудачна-кішэчнымі хваробамі. Для лячэння іх выкарыстоўваюцца найноўшыя дасягненні медыцынскай навукі, а таксама мясцовыя мінеральныя воды. Урад Беларускай ССР зацвердзіў генеральны план забудовы нарачанскай зоны, як комплекса кліматa-бальнеалагічных курортаў. Тут ствараецца шырокая сетка санаторыяў, дамоў адпачынку, пенсіянатаў, гасцініц. Электрыфікаваная чыгунка злучыць гэты край з цэнтрам рэспублікі. У будучыні тут змогуць лячыцца і адпачываць адначасова да 35 тысяч асоб.

Трэба адзначыць, што ў распараджэнні лячэбных і прафсаюзных органаў рэспублікі ёсць шэраг першакласных санаторыяў за яе межамі — на Чарнаморскім узбярэжжы Крыма і Каўказа, у Прыбалтыцы. Такім чынам, дзесяткі тысяч працоўных Беларусі кожны год маюць магчымасць атрымаць заслужаны адпачынак.

*Фота Э. Трыгубовіч*



*Галоўны корпус санаторыя «Нясвіж».*



*Санаторый «Крыніца». Тут адпачываючыя тройчы ў дзень п'юць мінеральную ваду з мясцовых крыніц.*



*Палатачны гарадок на беразе Мінскага мора. Тут адпачываюць жыхары Мінска.*




ПРА НАЦЫЮ І ДЗЯРЖАВУ

На пачатку гэтага года паявілася кніжка *Ежы Вятра «Нацыя і дзяржава»* *). Аўтар гэтай кніжкі — вядомы польскі сацыёлаг, стаўляе вельмі важныя пытанні, на якія павінна старацца даць адказ сучасная навука. Ва ўступе аўтар гаворыць: «Жывем у перыяд, калі рэвалюцыйныя грамадскія перамены ствараюць новую цывілізацыю. Якою яна мае быць? Якое месца займе ў ёй нацыянальная дзяржава? Які будзе і які павінен быць змест культуры будучыні? У якой меры паняцці, звязаныя з нацыяй і айчыннай, будуць ствараць форму гэтай культуры?

Гэта толькі некаторыя пытанні, на якія аўтар стараецца знайсці адказ у сваёй працы. Ведаем, што некаторыя простыя адказы на вышэй указаныя пытанні не вытрымалі пробы жыцця. Асабліва вядома, што сацыялістычныя перамены не толькі не прыносяць аслаблення або занікання нацыянальных сувязей, але наадварот, адкрываюць перад нацыямі новую эпоху іх хуткага і ўсебаковага развіцця.

Е. Вятр падзяліў сваю працу на тры часткі. Ва ўступе аўтар разглядае комплекс спраў, звязаных з нацыяй у спалучэнні са справамі сучаснага свету. Першую частку ён прысвячае нацыянальнаму пытанню ў гістарычнай перспектыве марксізма. Тут аўтар знаёміць з поглядамі Маркса, Энгельса, тэарэтыкаў II Інтэрнацыянала і Леніна на нацыянальнае пытанне, каб потым перайсці да больш падрабязнага аналізу праблем нацыі ў гісторыі польскага марксізма.

Другая частка кніжкі — «Сацыялагічная тэорыя нацыі» — з'яўляецца як быццам ядром працы. У раздзеле, прысвечаным тэрміналагічным праблемам тэорыі нацыі і нацыянальнасці, аўтар дае вельмі шырокі агляд розных акрэсленняў нацыі і нацыянальнасці, а таксама айчыны ў сусветнай літаратуры. Агляд акрэсленняў нацыі і іх сістэматызацыя — гэта вялікі ўклад аўтара ў марксісцкую сацыялогію нацыі.

Е. Вятр сцвярджае, што асноўным фактарам, які акрэслівае нацыянальную прыналежнасць людзей, з'яўляецца *культурная спадчыннасць*. Нацыянальнай прыналежнасці не атрымліваем у спадчыне ад бацькоў генетычнай ці біялагічнай дарогай, а ў працэсе выхавання. Вырваныя з сям'і малыя дзеці і перанесеныя ў іншую нацыю, становяцца членамі гэтай нацыі, а народныя ўяўленні, што «калісьці кроў у іх адзавецца, — гэта толькі пацяшэнне і ілюзія. Існаванне асноўнага фактара — культурнай спадчыннасці, — піша праф. Вятр, — можа быць карэкціравана асіміляцыяй. *Асіміляцыя адзінкі* да іншай нацыянальнай групы, — сцвярджае Вятр, — гэта прыняццё гэтай адзінкай звычаяў, мовы, культурных здабыч новай групы, стварэнне паставы салідарнасці з новай групай, мацнейшай, чым пастава салідарнасці з групай, з якой адзінка выводзіцца; сфармаванне ў адзінкі пачуцця, што належыць да новай нацыі, якой членамі бацькі яе не былі, але з якой яна хоча звязаць сваё жыццё і жыццё патомства.

У адказе на пытанне, да якой нацыі хтосьці належыць, асновай з'яўляецца свядомасць адзінкі. Той паляк, — хто лічыць сябе ім. Нельга быць членам нацыі без уласнай волі. Хто адчувае сябе прыналежным да данай нацыі, той павінен быць прызнаны членамі гэтай нацыі.

Аўтар у шырокім маштабе разглядае фактары нацыянальнатворчых працэсаў, называючы іх палітычнымі, ідэалагічнымі, лінгвістычнымі, геаграфічнымі, дэмаграфічна-міграцыйнымі і эканамічнымі. Праца Ежы Вятра з'яўляецца, бадай, першай шырэйшай сацыялагічнай працай аб нацыі і дзяржаве, напісанай з пазіцыі марксізма-ленінізма ў сацыялістычных краінах.

Праф. Ян Шчэпанскі ў рэцэнзіі **) на кніжку Е. Вятра так піша ў заключэнні: «Кніжка напэўна выкліча ажыўлёныя спрэчкі. Не могуць ля яе прайсці абыякава дзеячы, гісторыкі, палітыкі, ідэолагі, не гаворачы аб сацыёлагах...»

А. КАРПЮК

*) Jerzy J. Wiatr: Naród i państwo. Socjologiczne problemy kwestii narodowej. W-wa 1969. KiW. zł 50,00.

**) Nowe Książki Nr 8 z 30. IV. 1970 r. str. 471.

# ЛІСТЫ

ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Прыміце гарачае прывітанне з зямлі беларускай!

Я цікаўлюся жыццём беларусаў за мяжой Беларусі, у прыватнасці ў Польшчы, а асабліва жыццём моладзі ва ўзросце 19—28 год. У газеце «Ніва», якую я рэгулярна чытаю ў Дзяржаўнай беларускай бібліятэцы ў Мінску, знаходжу многа чаго цікавага на гэтую тэму. А нядаўна ў Мінску была польская выстаўка «Зроблена ў Польшчы», якую я адведаў тройчы. Выстаўка мне вельмі спадабалася. Думаю, што і беларусы, якія пражываюць у Польшчы, унеслі свой уклад у поспехі развіцця гаспадаркі Польшчы. Асабліва многа было людзей ля стэндаў такіх фірм, як «Полімэкс», «Палена», «Электрымэкс», «Компэкс» і іншых. У гэты дзень я набыў сабе польска-беларускі падручны слоўнік, каб лепш вывучыць польскую мову, мову нашых суседзяў. А яшчэ ў мяне ёсць мара — гэта завязаць сяброўскую перапіску з моладдзю беларускай нацыянальнасці ва ўзросце 19—28 год. Буду вельмі ўдзячны «Ніве» за надрукаванне майго ліста на старонках гэтай любімай маёй газеты. Лісты да мяне можна пісаць на адной з трох моў: беларускай, польскай альбо нямецкай. Мяне цікавіць літаральна ўсё, што можа цікавіць маладога чалавека ў 24 гады. Мяне завуць Пятрусь. Займаюся ў БІНГ імя Куйбышава. Праз год атрымаю дыплом таваразнаўцы і буду працаваць. Пішыце, паважаныя сябры! Усім будзе дадзены адказ. А калі лістаў будзе многа, то мне дапамогуць у адпісванні мае сябры па вучобе.

Пішыце на адрас:

*БССР*
*Мінск — I*
*На запытанне, Пятрусь Капчык*

Жадаю ўсім вам добрых поспехаў! А газеце «Ніва» — тысячы новых чытачоў!!!

Мінск, 12 ліпеня 1970 г.

З павагай *Пятрусь Капчык*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЛЕТНІЯ СУПЫ

**Суп з каларэпы (кальрабі)**

На адзін пучок валашчыны (зялёная пятрушка, селер, пора і маладая морква) бярэм штук 5 невялікіх каларэпак. Валашчыну мыем, заліваем кіпячай пасоленай вадой, варым і навар працэджваем. Каларэпку нарэзаць косткай і зварыць у навары з валашчыны. Суп падпраўляем белай засмажкай з мукі і масла, а адставіўшы з агню, дадаем смятану і зеляніну. Па смаку дадаем солі і цукру. Суп падаем з літымі мучнымі клёцкамі або з «птысёвым» гарошкам.

**Суп-пюрэ з калафёраў (цвятной капусты)**

Калафёр варым у пасоленай і пасалоджанай вадзе. Калі ён будзе зусім мяккі, выняць з вады і працерці праз сіта. 5 шклянак навару з калафёра уліць, памешваючы, у белую засмажку з мукі і масла. Як толькі ўсё гэта загатуецца, дадаем працёрты калафёр, робім агонь, на якім варым суп, зусім малым і запраўляем суп двума сырымі жаўткамі (жаўткі перад гэтым трэба расцерці з соллю і перцам, якіх нельга браць замнога, уліць у рэшту супу). Хвіліну падаграваем, не дапускаючы да кіпення. Адставіўшы з агню, трэба ўсыпаць зеляніну. Суп-пюрэ падаюць з грэнкамі з булкі.

**Суп з зялёнага гарошку**

На гэты суп бярэм паўкілаграма зялёнага гарошку. Гарошак вылушчваем. З зялёных струкоў здзіраем унутраную цвёрдую скурку і выкідаем яе. Струкі кроім і дадаем да гарошку. Маладую пятрушку, селер, пору і моркву мыем, дробна нарэзваем, дадаем да яе гарошак, заліваем кіпятком, варым. З лыжкі масла і мукі робім засмажку, запраўляем суп, дадаем па смаку соль і цукар, даводзім да кіпення, а пасля дадаем яшчэ кавалачак масла. Перад падачай на стол уліваем смятану, дадаем зеляніну. Суп гэты можна падаць з клёцкамі ці з рысам.

**Суп з гародніны з літымі клёцкамі**

Зварыць старанна вымытую і ачышчаную 1 моркву, 1 пятрушку, 1 невялікі селер і 1 пору разам з галоўкай калафёра і 1/4 качана капусты (усё трэба, зразумела, перад гэтым парэзаць на не надта малыя кавалкі). Дадаць 2—3 булённыя косткі і варыць яшчэ мінут 10.

За той час падрыхтоўваем цеста: 2 сырыя яечкі размешваем з мукой, так, каб атрымалася гладкая маса. Цеста павінна ліцца не надта тонкай струйкай. Калі гародніна ўжо стане мяккая, у гарачы суп уліваем цеста, памешваючы. Варыць яшчэ мінуты 3. Адставіўшы з агню, пасаліць, запраўляць смятанай, пасыпаць зелянінай.

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# ПЕРАСЦЯРОГА ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

Зусім нядаўна, бо толькі 15 год таму назад, вучоныя ўстанавілі, што ў арганізме кожнага чалавека знаходзіцца 46 *храмазомаў*, а кожны з гэтых храмазомаў складаецца праўдападобна са ста, да двухсот тысяч *генаў* — самых маленькіх элементаў жывой матэрыі, у якой свой жыццёвы пасаг атрымоўвае дзіця ад бацькоў. Сярод гэтых 46 храмазомаў адну палавіну перадае нам бацька, а другую палавіну — маці. Так бывае найчасцей і такое становішча лекары, спецыялісты ад генетыкі, прызнаюць нармальным. Гэты нармальны комплекс храмазомаў называецца ў медыцыне *«карыатыпам»*.

Можа аднак здарыцца, што гэты карыатып замест 46, будзе мець 47 або 45 храмазомаў. Гэтае адхіленне ад нормы выклікае розныя хваробы і няправільнае развіццё чалавечага арганізма.

Даследваючы залежнасці чалавечых паводзін ад складу гэтых храмазомаў у людскім арганізме, англійскія вучоныя Касей і Якобс супольна з палякам — доктарам К. Бачкоўскім адкрылі *«храмазом злачынства»*, які абазначаецца сімвалам *ХУУ*. Гэты храмазом адначасова садзейнічае высокаму росту чалавека і бывае рухавіком павышанай агрэсіўнасці. Людзі, якія яго маюць, растуць вышэй 180 см. Калі праверылі высокіх вязняў, дык аказалася, *што кожны чацвёрты сярод іх меў гэты «храмазом злачынства»*.

Калі ўсё гэта пацвердзіцца, дык у недалёкай будучыні, глянуўшы ў мікраскоп, можна будзе сказаць, хто з'яўляецца магчымым злачынцам.

Справа на тым не канчаецца. Доследы паказваюць, што многа т.зв. спадчынных хвароб мае сваю крыніцу ў няправільным храмазатычным карыятыпе. Паводле падлікаў Сусветнай арганізацыі здароўя, 7,5% дзяцей у свеце родзіцца з нейкімі заганамі. Гэтыя 7,5% складаюць 250 мільёнаў нешчаслівых, якія растуць, спалучаюцца ў пары (шляхам жаніцьбы) і свае ненармальныя карыатыпы перадаюць сваім дзецям.

І тут узнікае сур'ёзная праблема, якая цёмнай плямай кладзецца на будучыню чалавецтва. Вучоныя прапануюць, каб перад шлюбам правесці праверку складу храмазомаў у дзяўчыны і ў хлопца. Калі лабараторныя доследы пакажуць, што ў будучых бацькоў — адначасова ў жанчыны і ў мужчыны — знаходзяцца пашкоджаныя гэтыя самыя гены, дык лепш не мець ім дзяцей, або пашукаць сабе іншых партнёраў. Ад нейкага часу такую праверку на добраахвотнай аснове праводзяць у Італіі.

Такім чынам медыцына выкрыла яшчэ адну перасцярогу для закаханых.

(вр)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЛАЗЕР «ЗАПАЙВАЕ» ЗУБЫ

Звыштрывалая і, здавалася б, непранікальная, як бронь, зубная эмаль порыстая — скрозь яе ўнутр зуба лёгка трапляюць некаторыя хімічныя рэчывы. Эмаль даволі хутка знішчаецца мікробамі.

У выніку доследаў, якія ажыццёўлены групай вучоных пад кіраўніцтвам д-ра Ф. Джонсана, не толькі ўстаноўлена сапраўдная прычына хуткага псавання зубоў (карыёзу), але і знойдзен спосаб яго радыкальнай ліквідацыі. З дапамогай найтанчэйшага промня лазера за 20 мільярдных доляй секунды ўдалося «заварыць» дробныя поры ў эмалі. Тым самым быў закрыт доступ у зубную поласць разбуральным хімічным рэчывам і шкодным мікробам. Такое «глазураванне» зусім безбалеснае і дае найбольшы эфект, калі пакрыццё эмалі вядзецца праз пласт шчолачнага раствору.

Вучоныя лічаць, што шырокае ўжыванне новы метад атрымае праз 1,5 — 2 гады, калі будзе распрацавана дастаткова зручная і танная апаратура.

### ЗАГАДКА

На ўзбярэжжа паблізу Токіо выплыла велізарная рыба. Ніхто не можа акрэсліць, што гэта за стварэнне.



### ЗБРОЯ — ГАРБУЗ

Не менш папулярнай зброяй, чым лук і стрэлы, у індзейцаў быў... гарбуз. З ім звычайна адпраўляліся на лоўлю дзікіх гусей. Для гэтага індзейцы загадзя высочвалі, куды гусі прылятвалі часцей за ўсё, і кідалі туды вялікія пустыя гарбузы. Праз некалькі дзён гусі прывыкалі да гарбузоў і нават узбіраліся на іх. Тады індзейцы надзявалі на галовы пустыя гарбузы і асцярожна падплывалі да птушак, як быццам па паверхні вады гнала ветрам гарбуз. Калі цікаўная гусь узбіралася на гарбуз, індзеец хапаў яе за ногі, тапіў і прывязваў да пояса. Знікненне адной птушкі не выклікала перапалоху ў іншых, і паляванне працягвалася.

ПАДАРОЖЖА ПА СВЕЦЕ

# ЗАГАДКА КАРЛІКАЎ „ВЯЛІКАГА ВОСТРАВА“

Я ўспомніў аб фантастычных птушках Марка Пола і легенду пра дрэвалюдаед, перагортваючы папку, якую мне далі ў рэдакцыі адной з газет сталіцы Мадагаскара — Тананарыве. Гэта былі вытрымкі са справаздач экспедыцыі, арганізаванай у нашы дні маладым аўстрыйскім этнографам Лотай Гернбек. Правільней, гэта была нават не экспедыцыя, а навуковы подзвіг адзіночкі — маладой жанчыны, якая здолела прабрацца ў недаступныя раней беламу чалавеку ўнутраныя раёны краіны.

Лоту натхнілі зрабіць гэта рызыкоўнае падарожжа зноў-такі мальгашскія легенды. І мерына, і бецэлео, і бецымізарака, як і ўсе іншыя плямёны, што насяляюць Мадагаскар, расказваючы пра тое, як яны трапілі на востраў, адзіныя ў адным: «Калі нашы продкі прыйшлі з-за акіяна на гэту зямлю, яна была населена маленькімі людзьмі, вынослівымі і злымі». На поўдні вострава гэтых карлікаў называюць какалампі, на землях мерына і бецымізарака яны вядомыя як вазімба. «Праблема вазімба», аброслая за апошні час тамамі даследаванняў, — адна з найбольш цікавых і важных у мальгашскай гісторыі. Яна важная таму, што французская гісторыяграфія Мадагаскара спрытна выкарыстала нікім не праверанымя легенды пра вазімба ў каланіяльных інтарэсах метраполіі. Французы зрабілі выгадны для сябе вывад: калі абарыгенамі Мадагаскара з'яўляюцца карлікі-вазімба (родзічамі афрыканскіх пігмеяў, як сцвярджаў той-сёй з французаў), то мальгашы, якія прыйшлі на Мадагаскар з Інданезіі, — гэта «белыя» чужаземцы, якія маюць на востраве ўжо ва ўсялякім разе не больш правоў, чым французы, якія прыйшлі следам за імі.

І вось у 1963 годзе Лота Гернбек адправілася на пошукі легендарных карлікаў. Без зброі, у суправаджэнні выпадковых мясцовых праваднікоў пераадольвала адважная даследчыца багністыя балоты, змрочныя трапічныя лясы і горы, нанесеныя на карце толькі пунктірам. Такі быў яе шлях да пячораў Аніваролe, дзе, як гаварылі ў народзе, жылі карлікі-какалампі. Мясцовыя жыхары, якія адчувалі забабонны страх перад маленькімі героямі ўласных легенд, з неахвотай гаварылі пра какалампі. Яны надзялялі карлікаў звышнатуральнымі ўласцівасцямі і скардзіліся, што па начах пячорныя людзі часам крадуць у іх рыс і маніёку. «Не хадзіце да какалампі, — раілі старыя. — Яны забіваюць або насылаюць хваробу на праследвальнікаў».

Аднак у Аніваролe, што ветліва сустрэла Лоту, нават пажылыя людзі сцвярджалі, што ніякіх какалампі ў пячорах не існуе. Жыхары Аніваролe гаварылі на малазразумелым дыялекце, што адрозніваецца ад мясцовых, а знешне, як зазначае Л. Гернбек, былі падобныя сваім складам цела на дзяцей. Рост гэтых людзей не перавышаў 143 сантыметры. Аднак гэта былі зусім не афрыканскія пігмеі. Жаўтаваты колер скуры, рэдкія валасы на тварах мужчын, манголападобны разрэз вачэй рабілі іх падобнымі на мальгашаў. «Мы самі жывём месяцамі ў лесе, палюем і збіраем плады, начуем у пячорах, але ніколі не бачылі ніякіх карлікаў, — гаварылі жыхары Аніваролe. — Адзіныя, хто да нядаўняга часу жыў у лесе, дык гэта мужчыны — бецымізарака, якія пасля паўстання супраць французаў ратаваліся ў нашых месцах ад жандараў. Яны не выходзілі са сваіх сховішчаў і толькі ноччу клалі на скрыжаванні дарог дзічыну або мёд. Мы бралі іх, каб прадаць на рынку, а ў абмен пакідалі рыс, маніёку, тканіны. Часам іх забіралі лямуры, але какалампі тут ні пры чым».

Так Лота высветліла, адкуль ідуць чуткі пра карлікаў-какалампі. Нізкарослыя людзі, што размаўляюць на малазразумелай мове, не ведаюць, што такое брытва і адзенне, час ад часу паяўляюцца ў вёсках і гэтак жа нечакана знікаюць... Увогуле для мясцовага насельніцтва гэта былі «незразумелыя лясныя людзі». А незразумелае, як правіла, заўсёды абрастае самымі неверагоднымі падрабязнасцямі.

Праз два гады Лота зноў вярнулася на Мадагаскар і прарабіўшы шматдзённы паход на туземнай пірозе па рацэ Манамбола, знайшла ў гушчарах лясоў нізкарослых людзей, якія называлі сябе вазімба.

Спачатку вазімба сустрэлі Лоту недружалюбна. Аднак, падняўшы на ногі дзяўчынку, якая памірала, яна заваявала іх сэрца. Вось што расказалі старэйшыя вазімба аб мінулым свайго народа:

— Даўным-даўно вазімба жылі разам з іншымі плямёнамі на Цэнтральных плато. Але аднойчы паміж імі і суседзямі ўзнікла сварка, і мірныя вазімба, каб пазбегнуць братазабойчай вайны, пакінулі землі бацькоў. Спачатку яны размясціліся ў раёне сучаснай сталіцы Мадагаскара — Тананарыве, а потым, калі туды прыйшло племя мерына, якія хацелі ператварыць вазімба ў рабоў, рушылі далей, у глыбіню вострава.

Дарога была доўгая, многія загінулі або прапалі без вестак. Нарэшце, вазімба знайшлі сярод лесу ў цясніне Манамбола, шмат пячор, у якіх выра-

# ТРЫБУНА чытачоў

## АДНОЎЛЕНЫ БУДЫНАК

У Дабрывадах нібыта была святліца. Дакладней кажучы, існаваў будынак, якім ніхто не цікавіўся, і таму ён увесь час пуставаў і нішчэў.

Але нядаўна моладзь зацікавілася гэтым будынкам і па ініцыятыве ЗМВ-у будынак быў адноўлены і ў сярэдзіне і звонку. І тут цяпер знаходзіцца клуб «Руху». З Гайнаўкі зараз давозяцца сюды тавары. Ёсць ужо адаптар, шашкі, шахматы, карты. Сюды штодзённа прыходзіць моладзь і старэйшыя і культурна праводзяць час. Кіраўніком клуба працуе мясцовая дзяўчына Вера Стацкевіч.

*Мікалай Панфілюк*

## ЖАНОЧЫ ЦЫРУЛЬНІК

Жанчыну ўпрыгожвае прычоска. Няма такіх жанчын, якія б не хадзілі да цырульніка. Асабліва маладыя. Забава, госці, вяселле, хрысціны — дык ужо абавязкова трэба зрабіць адпаведную прычоску.

У Дуброве Беластоцкай дзяўчаты найчасцей робяць прычоскі ў Хрысціны Леўты. Яна дакладна разумее, што добрая прычоска дае дзяўчыне шмат прыгажосці. І таму яна намагаецца рабіць іх так, каб кліенткі былі задаволеныя.

Крыся, так яе завуць у Дуброве, жыве у асноўным разам з бацькамі ў вёсцы Крапіўна і даязджае на працу. Яна праяўляе вялікую актыўнасць сярод моладзі ў культурна-асветных справах. Вось таму маладыя і старэйшая моладзь на вясковым арганізацыйным сходзе гуртка БГКТ выбралі яе ў праўленне. (мх)

## У КАРЫЦІНСКАЙ ГРАМАДЗЕ

Да прэзідыума ГРН у Карыціне (Сакольскі павет) належаць 22 вёскі. І амаль усе гэтыя вёскі за гады народнай улады пабудавалі ў сябе добрыя вуліцы, з брукаванай маставой, а ў некаторых вёсках пракладзены нават ходнікі. Тут, дзякуючы вялікай гігіенічнай прапагандзе мясцовага доктара Антона Радлінскага, амаль кожны гаспадар мае на сваім панадворку пабудаваны нужнік. (хх)

## ПРЭМІІ ПКО

16 ліпеня ў Ваяводскім праўленні ПКО ў Беластоку адбылося чарговае публічнае 45-ае лясаванне грашовых прэмій на прэміяваныя ашчадныя кніжкі ПКО.

200% сярэдняга грашовага ўкладу вылясавала 76 кніжачак, 100% укладу вылясавала 150 кніжачак і 50% укладу — 906 кніжачак.

Прэміяваныя ашчадныя кніжкі ПКО выстаўляюць усе аддзелы ПКО. Кніжкі гэтыя не апрацэнтоўваюцца. Замест гэтага яны прымаюць удзел у лясаванні грашовых прэмій. На кожныя 1000 кніжачак штоквартал вылясоўваецца 15 грашовых прэмій, у тым ліку адна прэмія велічынёй у 200%, дзве прэміі — па 100% і 12 прэмій па 50% сярэдняга ўкладу ашчаднасці на працягу календарнага кварталу, папярэджваючага лясаванне. (сс)

шылі пасяліцца. Калі гэта было — 500, 1000, 1500 гадоў назад, — ніхто не памятае. З таго часу вазімба жывуць у лесе, у якім, акрамя іх, ніхто не жыве, вырошчваюць рыс, збіраюць дзікі мёд. Вельмі рэдка яны адпраўляюцца ў суседнія паселішчы на рынак. У сваё ж паселішча,, памятаючы гісторыю, вазімба нікога не пускаюць.

Так v нашы дні было адкрыта племя вазімба і вырашана для гісторыі адна з асноўных праблем багатай таямніцамі мальгашскай гісторыі. «І я зразумела, — запісала Л. Генбек у сваім дзённіку, — што ўсе байкі пра звышнатуральных вазімба тлумачацца толькі іх добраахвотным адасабленнем. Іменна ў гэтым прычына той атмасферы таямнічасці, якой акружана на Мадагаскары само імя вазімба. Мне таксама ўдалося высветліць, што легендарныя карлікі — зусім не пігмеі, і што ва ўнутранай частцы вострава таксама жывуць плямёны мальгашоў».

— А што думаюць пра вазімба мальгашскія вучоныя? — з такім пытаннем я звярнуўся да буйнейшага гісторыка Мадагаскара, акадэміка Рабемананяара.

Нашы продкі ў даўнія часы, карыстаючыся спадарожнымі вятрамі, прыбылі на першабытных суднах на Мадагаскар з астравоў Паўднёва-Усходняй Азіі, — гаворыць ён. — Перасяленне гэта, вядома, адбылося не за адзін дзень і нават не за адно стагоддзе. Зусім магчыма, што вазімба — патомкі першых найбольш старажытных пасяленцаў з Інданезіі або Палінезіі.

*С. Кулік*

## УСІМ ЗНАЙШЛАСЯ РАБОТА

У Аляксандра і Любы Крукоў з Нетупы, што на Сакольшчыне, вялікая сям'я. У іх дванаццаць дзяцей — восем сыноў і чатыры дачкі. Усе дзеці іх ужо дарослыя, усе маюць добрую працу ў розных гарадах Польшчы.

Бацькі часам успамінаюць даваенны час, панскую Польшчу, калі панавала ў гарадах беспрацоўе, а на вёсках — «голад зямлі», калі лішніх рук да працы было вельмі многа. У Крукоў быў трацяк зямлі (7 га). Якая ж будучыня была б у іх дзяцей у той час? Яны вымушаны былі б не жыць, а мучыцца, бо зямлі дзяліць на ўсіх не было б чаго, а атрымаць дзе-небудзь працу было нялёгка.

Народная ўлада выратавала гэтую сям'ю (як і іншыя) ад галечы. І ўся сям'я Крукоў удзячна народнай уладзе, якая забяспечыла ўсіх іх і добрымі пасадамі і добрай работай. На вёсцы ў Нетупе засталіся толькі бацькі. (сс)

## ЦЭНТРАЛЬНАЕ АГРАВАННЕ

У некаторых вёсках Сакольскага павета сяляне пачынаюць будаваць цэнтральнае агraванне. У такіх вёсках, як Навінка, Вылудкі, Крукоўшчына, Забродзе і Альшанка ужо ёсць гаспадары, якія не агравають хаты пры дапамозе печаў. Пабудавалі яны ў сваіх печках — плітах спецыяльныя бакі, ад якіх адыходзяць трубы і гэтак агравають хаты. Такі метад агравання і выгаднейшы і менш патрабуе паліва. (мм)

## КАРЧАВАННЕ

Непадалёк вёскі Дубічы Царкоўныя ёсць урочышча Жалудок. Тут ужо ў 1968 годзе праводзіліся работы. Жыхары вёскі карчавалі зараслі, каб пасля іх ліквідацыі атрымаць зялёныя ўгоддзі. Але тады ўсяго Жалудка не выкарчавалі. Кавалак застаўся. Нядаўна зноў пачалася работа. Гаспадары Дубіч Царкоўных пастанавілі да жніва выкарчаваць зараслі. Пасля Жалудок заарэцца трактарам, будзе пасеяна трава, і тады наступіць падзел Жалудка паміж гаспадарамі. П. М.




Дарагое Сэрцайка!

Хлопец, з якім я «хадзіла», быў вельмі мілы і шчыры. Не быў прыгожы, але вартасны чалавек. І за гэта я яго пакахала. Сябравалі мы доўгі час. А вось, калі мы вырашылі пажаніцца, маці Тадзіка забараніла яму жаніцца са мною. Тадзік не слухаў маці і ўсё роўна прыходзіў да мяне і ўсё нагаварваў, каб пажаніцца, каб я не слухала маці, важна тое, што ён хоча мяне ўзяць за жонку. Я, калі ўсё перадумала (бо прычыну гэтага ведаю, але не хачу пісаць аб ёй), вырашыла пакінуць Тадзіка. Так і зрабіла. Цяпер сяджу дома, выходжу толькі на працу (бо жыву ў горадзе). Жыццё такое пачало мне дакучаць, і таму пішу да цябе, Сэрцайка. Можа хто-небудзь напіша да мяне, можа хто параіць. Мне 25 год і ўжо здаецца мне, што назаўсёды застануся адна.

За параду шчыра дзякую.

*«Мілена»*

### АД СЭРЦАЙКА:

Здаецца мне, што ты пакінула Тадзіка не з-за капрызу яго маці, а проста ты яго не кахала, бо не сумуеш па Тадзіку, а проста баішся быць адна. Маці стала толькі прычынай твайго ўчынку. Здаецца мне, што ты зрабіла добра, бо няма патрэбы (ты яшчэ маладая!) выходзіць замуж за некаханага хлопца.

Можа аднак іншыя, хто гэта перажыў, а можа проста тыя, што знаходзяцца ў такой сітуацыі, як «Мілена», напішуць, параяць, дапамогуць ў пераадольванні сумнага адзіноцтва. Чакаем пісем.

* * *

Р. Т. з Беластока! Просьбу вашу мы выканалі — пісьмо выслана.

ОЛЯ з Беласточчыны! Каб паступіць у музычную школу, трэба мець не толькі добры голас, але, перш за ўсё, добры слух, і жыць у Беластоку.

*Сэрцайка*



*Злева направа: сакратар ГРН Леапольд Корзун, Валя Паўлючук, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Уладзімір Паўлоўскі, Ніна Філіманюк і старшыня ГРН Антон Власюк.*

## З ВІЗІТАМ У ГРН

Мы ўжо інфармавалі раней, што Ніна Філімонюк і Валянціна Паўлючук з бельскага хору ў конкурсе на беларускую песню ў Галоўным праўленні БГКТ ў Беластоку занялі другое месца. Дуэт гэты вельмі прыгожа спяваў.

Напярэдадні свята Адраджэння, 21 ліпеня, мы паехалі, каб успомненым салісткам уручыць конкурсныя ўзнагароды. І менавіта тады мы даведаліся, што Ніна жыве ў Падбеллі, а Валя — ў Дыдулях, што працуюць яны ў Прэзідыуме ГРН у Грыгароўцах, і што з'яўляюцца добрымі працаўнікамі. Ніна Філіманюк займае адказную пасаду. Яна — рэферэнт скупу. А праца на гэтай пасадзе даволі цяжкая. Але, як сцвярджаюць старшыня і сакратар ГРН, Ніна дасканала спраўляецца са сваімі абавязкамі, і таму многа пахвал мы пачулі ў яе адрас.

Тут даведаліся мы таксама, што старшыня ГРН Антон Власюк працуе ў радах ужо 15 год. І працуе добра. І ў сувязі з гэтым Прэзідыум павятовай рады нарадовай у Бельску-Падляшскім прызнаў яму ўзнагароду — 75% месячнай зарплаты. І вось з нагоды 22 ліпеня старшыня ГРН у Грыгароўцах атрымаў у ліпені амаль дзве зарплаты. Віншуем!

Хочацца падкрэсліць яшчэ і той факт, што ў ГРН ганарацца Нінай і Валяй, якія даязджаюць на рэпетыцыі Бельскага хору больш як па 15 км і прыймаюць ва ўсіх паездках хору актыўны ўдзел, расслаўляючы па Беласточчыне беларускую песню. Мы са свайго боку жадаем ім поспехаў у прафесіянальнай і грамадскай працы, жадаем, каб зноў у конкурсе «Беларуская песня — 1971» дабіліся яны яшчэ вышэйшай ацэнкі журы.

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

## НЕДАХОПЫ ВЁСАК

Ёсць у нас розныя вёскі — прыгожыя і непрыгожыя. Прыгажосць гэтая вельмі ў многім залежыць ад саміх гаспадароў і ад грамадскіх рад нарадовых. Маю тут на думцы агароджу пры кожнай хаце і платы пры вуліцы. Калі солтыс, калі ГРН звяртае на гэта ўвагу і на вясковых сходах аб гэтым гаворыцца, тады гаспадары дбаюць аб тым, каб платы былі роўненькія, з прыгожых штыхет, тады кожны гаспадар, гледзячы адзін на другога, намагаецца зрабіць і вароты прыгожыя на свой панадворак і нават памаляваць плот. Многа ўжо на вёсках драцяных сетак і жалезных брам і брамак.

Такіх упарадкаваных вёсак шмат ёсць у Бельскім і Гайнаўскім паветах. А ўжо амаль зусім не сустрэнеш іх на Сакольшчыне і Дуброўшчыне.

На Сакольшчыне і Дуброўшчыне яшчэ з адной вельмі істотнай справай даволі дрэнна. Рэдка ў якога гаспадара ёсць нужнік. На ўсё хапала матэрыялу — на хату, хлеў, шопку, свіронак, але на нужнік заўсёды нехапала. А даволі часта ёсць і так, што ёсць і дошкі ў гаспадара, але каб зрабіць нужнік, дык гэта нікому ў сям'і не прыходзіць у галаву. За сваёй патрэбай ходзяць ў хлеў або за хлеў, а найчасцей за гумно. А справы гігіены, здавалася б, таксама павінны быць блізкія кожнай ГРН. (сс)



*У беластоцкім парку «Звярынец».*

*Фота В. Касакоўскі*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

КЛЯШЧЭЛІ

,,Casanowa znad Dunaju'' (węgierski), 11—12. ,,Zwiadowca'' (radziecki), 13—14. ,,Czekam w Monte Carlo'' (polski), 15—16.

ДУБІНЫ

,,Nowy'' (polski), 12—16.

НАРАЎКА

,,Szczęśliwy Aleksander'' (francuski), 12—16.

НАРВА

,,Lalka'' (polski), ,,Polowanie na mężczyznę'' (franc.), 12—16.

ЧЫЖЫ

,,Słońce obcego nieba'' (jugosłowiański), ,,Włoch w Argentynie'' (włoski), 12—16.

ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

,,Koniec agenta W4C'' (ang.), ,,Szósty lipca'' (radz.), 12—16.

АРЭШКАВА

,,Dziewczyna'' (węgierski), ,,Miłość i jazz'' (szwedzki), 15—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

БОЦЬКІ

,,Adolf'' (franc.), ,,Wniebowstąpienie'' (polski), 12—16.

ОРЛЯ

,,Dożyjemy do poniedziałku'' (radz.), ,,Kalejdoskop'' (ang.), 12—16.

РАЙСК

,,Dzika Elżbieta'' (czeski), ,,Tylko umarły odpowie'' (polski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

МІХАЛОВА

,,Pali się moja panno'' (czeski), 11—12. ,,Nie ma powrotu Joanny'' (polski), 13—14. ,,Wołga-Wołga'' (radz.), 15—16.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

КРЫНКІ

,,Chewsburska ballada'' (radz.), 11—12. ,,Dziesięciu małych Indian'' (ang.), 13—14. ,,Szkice warszawskie'' (polski), 15—16.

ЯНАЎ

,,Paragon gola'' (ZRA), 12—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

НУРЭЦ

,,Galia'' (franc.), 11—12. ,,Smarkula'' (polski-, 13—14. ,,Nie ma powrotu Jenny'' (polski), 15—16.

МЕЛЬНІК

,,Skowronek'' (węgierski), 11—12. ,,Gra bez reguł'' (czeski), 13—14. ,,Ostatnia watażka'' (bułg.), 15—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

СУХАВОЛЯ

,,Raj na ziemi'' (polski), ,,Nie drażnić cioci Leontyny'' (franc.), 12—16.

НОВЫ ДВОР

,,Kochać jak Romeo'' (jugosł.), ,,Siedem razy kobieta'' (włoski), 15—16.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

# ШЭРШАНЪ

— Галенка, зірні хто прыехаў!.. Сымон Буцянка ледзьве не самлеў ад шчасця. Уважыў-такі Ігнат Ігнатавіч, завітаў да яго ў суботу! Лепшага свята не трэба! Трэст жа вунь які, а дырэктар на ўсіх — адзін.

Пакуль жонка збірала на стол, Сымон павёў госця ў садок. У паўдзённую спёку адно задавальненне блукаць па цяністай сцяжынцы, дыхаць водарам кветак, паспытаць садавіны. Яблыкі паспелі ўжо, быццам мядком налітыя. І пчолкі звіняць. Праўда, не Сымонавы — суседскія.

— Сваіх ньблага займець, — хрумстае яблык Ігнат Ігнатавіч. — Вялікая карысць ад пчол для здароўя.

— Само сабой! — пагадзіўся Буцянка. — Абы прыязджалі! Займею пчолак!

— Мёд — жывы нектар! Лякарства!

— Ёсць, ёсць мядок. І мядовачкі прыпас!

— Пчалінае джала? Не чуў? Прыняў сэанс — радзікуліт бы рукой зняло.

Няўжо памагае ад радзікуліта? Дык і самому льга падлячыцца. Бо ўзяць хоць сёння. Пасля здароўкання з Ігнатам Ігнатавічам ледзьве разагнуўся. Так вось кручком - пыталынікам і сунуўся ўслед ад брамы да ганка. Адпусціў толькі, праклятыь, калі на ганак выскачыла жонка.

Гудуць, звіняць пчолкі. Адна да высокага гасця прывязалася. Во назола! Ды гэта ж не пчала — шэршань! Ігнат Ігнатавіч адхіснуўся, замахаў рукамі.

— Не бараніцеся, Ігнат Ігнатавіч! — затрымцеў гаспадар. — Горш раздражніце!..

Толькі ж і сам не сцярпеў, падскокнуў, пляснуў над дырэктаравай галавой далонямі — хацеў памагчы.

Шэршань, чорна-рыжы, гаматны, як бразільскі футбаліст, закружыў вертальётам, загудзеў, як арган у касцёле.

— Уф! — хапіўся Ігнат Ігнатавіч за шчаку. — О-ох!..

— А ліха на яго! — перапалохаўся Буцянка. — Зараз халоднай зямелькай патру...

— Можа якой маззю памазаць? — стагнаў Ігнат Ігнатавіч.

— Што вы, што вы! — скацілася з ганка Сымонава маладзіца. — Змачу ў сцюдзённай вадзе ды прыкладу хусцінку...

— Во-во! — падтакtваў Буцянка. — Ураз палягчэе, Гнат Гнатавіч... Галенка мая санітаркай у бальніцы працавала, наскрозь медыцыну ведае...

Але кампрэс не памог. Ігнат Ігнатавіч гатовы быў па мураве качацца. Прысеў, ускапіўся, зноў прысеў. Затым, не зважаючы на свае дзевяноста кілаграмаў, прытчэй за якога дзецюка сігануў да «волгі». Шафёр даў газу. Машына рванула, знікла ў клубах пылу.

Вось так шкоднае насякомае сапсавала ўсё свята.

— Лепей бы той шэршань мяне жыгануў! — ажно заплакаў Сымон Буцянка.

*Іван Аношкін*

# НІЎКА

*У СУВЯЗІ З НОВЫМ ФУТБОЛЬНЫМ СЕЗОНАМ*



— *Вось як трэба прыймаць гасцей на сваім полі!*

## ЯК

— Суседзе, ты не ўяўляеш, што гэта за штука — халадзільнік! Яйкі, масла, — нішто не сапсуецца.

— У мяне таксама нічога не псуецца, хоць халадзільніка і няма.

— Не можа быць! Як ты выкручваешся?

— А ў мяне шасцёра дзяцей.



*Без слоў.*

## ЗМЕНЫ

— Прывітанне, Мірак! Колькі лет, колькі зім! Ты, браце, нешта дужа перамяніўся?

— Даруйце, але я не Мірак, а Франё!

— Ух ты, і імя перамяніў!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе дзяўчат з Бельчыцы, Ніны Амельянюк і Любы Іванюк з Козлікаў, Гайнаўскага павета, Іры Жамойда і яе сяброўак з Вострава Паўночнага, Сакольскага павета, змяшчаем песню:

## Jesień idzie przez park

Słowa: M. Gaszyński, B. Loebl
Muzyka: Krzysztof Klenczon

Jesień, liść ostatni już spadł,
jesień, deszcz zmył butów twych ślad,
jesień idzie ku mnie przez park.
Wczoraj minął miesiąc, jak list
przyniósł mi listonosz, a dziś
tylko nosi liście tu wiatr.

To, to radosny był dzień,
gdy zapewniałaś mnie, że
nic nie rozdzieli nas już,
że co dzień list
będziesz słać do mnie.

Jesień, liść ostatni już spadł,
popatrz, plaża jak letni kwiat,
zima idzie ku mnie przez park.
Szybko przyjdzie wiosna i żar,
lato, i wakacje, i park,
w którym znajdę cienie wśród drzew.

Znów szybko miną nam dni,
znów będziesz powtarzać mi,
że nie rozdzieli nas nic,
że co dzień list
będziesz słać do mnie.

Jesień, znowu czekam na list,
jesień, zamiast listu mam liść,
jesień, z inną idę przez park.

## ЗНАЙШЛА ВЫЙСЦЕ

— Ты растлумачыў жонцы, што вам не па кішэні жыць на курорце ўдваіх у час тваёго лячэння?

— Але.

— І што яна?

— Паехала адна.

## ВАЖНАЕ РАШЭННЕ

Два прыяцелі сустракаюцца пасля даволі працяглай разлукі.

— А як там тваё мінулагодняе Вялікае каханне!

— Скончылася

— Вы расталіся?

— Не, ажаніліся.

## РАЎНІВАЯ

Зося — сваёй сяброўцы:

— Адам мне здраджвае. Учора я бачыла яго перад кіно пад руку з нейкай прыгожай дзяўчынай.

— І ты, вядома, пайшла за імі?

— Не, мой спадарожнік ужо бачыў гэты фільм.

## УДАЧЛІВЫ

Выпадковы назіральнік звяртаецца да рыбаловааматара:

— Як справы?

— Нядрэнна.

— Што зявілі?

— Сёння нічога.

— І гэта называецца нядрэнна?

— Вядома. Майму суседу другі дзень нічога не пападаецца.

## ВАГІ

У магазін забягае абураная жанчына.

— Агідніцы! Мой сын купіў у вас яблыкі, і вы недаважылі паўкілаграма!

— Я ўзважыла правільна. А вы пастаўце на вагі вашага сына.

## ДЗЕ АЛЬПЫ

Міша пытаецца ў брата:

— Коля, ты не ведаеш, дзе Альпы?

— Спытайся ў мамы. Гэта яна заўсёды ўсё хавае.



*Без слоў.*

## КАСА І КАМЕНЬ

Каса на камень налящела
І тут жа на яго насела:
— Хоць знак падаў бы мне
здалёк
Ты, безгаловы лежабок!..

Але ўсміхнуўся камень той:
— Скажы, а ты што, з галавой?

*Марк Смагаровіч*

## ДАЎ СЛОВА

Мужчына да буфетчыцы рэстарана:

— Налі, любачка, шклянкачку.

— А вы сядзьце за стол, вам афіцыянтка падасць.

— Не магу, дарагая. Даў жонцы слова, што ніколі больш тут не буду сядзець.

## РАДЫ

— Апошні раз пытаюся: калі ты вернеш доўг?

— Вельмі рады, што пытаешся ты гэта ў апошні раз.

## ПЕРАТАМІЎСЯ

Вядомая пляткарка зайшла да мясцовага ўрача:

— Доктар, нешта мне млосна, ці не перастамілася я?

— Зараз паглядзім: пакажыце язык.

## ПЕТРАРКА

Петрарку спыталі, чаму ён не ажэніцца з Лаўраю, якой прысвяціў столькі любоўных песень.

— А дзе ж я тады буду браць матэрыял для новых песень, — адказаў паэт.

*Гумар з барадою*

## МАЛАКО

— Тое малако, што вы мне прыносіце, неяк дзіўна пахне. Чаму так?

— Не ведаю, панечка. Гаспадыня клікала ўжо канавала, каб карову агледзеў, але канавал казаў, што карова зусім здаровая.

— То мо трэ было б агледзець тую ваду, што вы даліваеце са студні ў малако?

— Э-э, панечка, хто б там цягаў ваду са студні. Гаспадыня далівае ваду з са жалкі, у каторай цяпер каноплі мокнуць...

— *Цяпер абмяркую спакойна, як правесці нядзелю.*

# Курёзы

## ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ

На востраве Кіпр да нашых дзён захаваўся вясельны абрад галення жаніха.

Пасярод двара, дзе сабраліся госці, на крэсле сядзіць прыбраны жаніх. Цырульнік голіць яму бараду, якую той знарок адгадаваў да вяселля. Каб надаць цырымоніі большую ўрачыстасць, сельскія музыкі ў гэты час іграюць на скрыпках.

Гэты дзіўны на першы погляд абрад сімвалічна паказвае, што жаніх ужо сапраўдны мужчына і можа жаніцца.

*

Незвычайныя некаторыя вясельныя звычаі ў Эфіопіі. Напрыклад, у народаў тыграі і амхара з даўніх часоў і да нашых дзён вядзецца так, што зяць і цешча ад заручын да вяселля і нейкі час пасля вяселля амаль не бачацца і стараюцца не размаўляць адно з другім. А ў народу гала зяць не мае права паказвацца на вочы не толькі цешчы, але і цесцю. Яны сустракаюцца толькі тады, калі народзіцца дзіця.

У некаторых вёсках Паўночнай Эфіопіі існуе звычай, па якім шаферы абавязаны «красці», каб дапамагчы маладым завесці сваю гаспадарку. Часцей за ўсё крадуць рэчы, але зрэдку і жывёл, напрыклад, курэй або курэнят. Калі чалавек, прыйшоўшы ў дом да маладых, знаходзіць там што-небудзь сваё, «украдзенае», ён павінен заплаціць грошы, і тады яму вяртаюць яго рэч.



## МІЖ НАМІ

Аўтарытэты часам вельмі падобныя на звычайныя гумавыя шары. Спачатку іх надзімаюць, а потым яны з трэскам лопаюцца.